незалежная газета

№ 7 (701) 16 лютага 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




**Сяргей Антонаў: «Я не мог крычаць антыдзяржаўных лозунгаў, я ж глухі»**

Старонка 5



**Алкаеў публікуе кампрамат на Шэймана**

Старонка 9

**Супраць лесбіянак я нічога не маю...**

Старонка 9

Тэндэнцыі

### «Лукашэнка разбіўся ў Сочы»

Розыгрыш стаў хітом інтэрнэту.

Сайт lenta.fishki.net, стылізаваны пад вядомы партал lenta.ru, напісаў, што Лукашэнка разбіўся, катаючыся на лыжах. Сайт паведамляў, што ён «на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў апору фунікулёра. У цяжкім стане на верталёце медыцынскай службы ён даастаўлены ў сочынскую бальніцу хуткай дапамогі».

Невядома, хто і нашто запусціў гэтую «качку», але гэтая спасылка стала хітом беларускага інтэрнэту ўранку ў аўторак.

**Сяргей Гезгала**

# Егіпецкія паралелі

Мубарак сыходзіць у няславе, без шанцаў для сына. **Старонка 2.**



### У НУМАРЫ

**Жонкі палітвязняў прарваліся да расійскага пасла**

Яны звярнуліся да Мядзведзева. **Старонка 3.**

**Новыя пасведчанні кіроўцы надрукавалі на трасянцы**

За афармленне заявы камерсанты здзіраюць дадатковыя 15 тысяч рублёў. **Старонка 15.**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**



## 3D-кіно — шкодная для здароўя тэхналогія

Піша кандыдат фізіка-матэматычных навук Ігар Сташкевіч. **Старонка 13.**

## Пафала Макею: Унясіце свой уклад у вызваленне палітвязняў

Кіраўнік ведамства канцлера Германіі адказаў на пытанні «Нашай Нівы». **Старонка 7.**






## Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн

**Перу, інкі, Тытыкака, кока. Старонка 10.**

# Мубарак сыходзіць у няславе, без шанцаў для сына

**Паводзіны сілавікоў мяняюцца, як толькі дыктатар пачынае залежаць ад іх. Піша Андрэй Дынько.**

10 лютага, у дзень калі кар'ера Хосні Мубарака прыйшла да фіналу, прычым бясслаўнага, «Советская Белоруссія» ў чарговай рэдакцыйнай калонцы, прысвечанай падзеям у Егіпце, нагадала, што беларускі спецназ 19 снежня разагнаў рэвалюцыю за 7,5 хвіліны. Гэтую слаўную лічбу лукашэнкаўскія СМІ паўтараюць не першы раз.

У рэальнасці беларускаму спецназу спатрэбілася на «ачыстку» Плошчы паўтары гадзіны, бо на Плошчы было ўсяго 30 тысяч чалавек, і з іх толькі 3 тысячы былі гатовы да негвалтоўнага супрацьстаяння, сабатавання дзеянняў сілавікоў. Імаверна, каб на Плошчы было 60 тысяч чалавек і з іх 10 тыс. былі гатовы да стаяць да канца, сітуацыя магла б развівацца інакш.

Егіпецкаму спецназу таксама было не прывыкаць да разгону апазіцыйных акцый. Але і егіпецкай апазіцыі было не прывыкаць да арганізацыі іх. І тыя, і другія мелі вопыт.

У аўторак 25 студзеня ў Егіпце адбылася энергічная акцыя пратэсту, але яна не выходзіла за рамкі звыклага для гэтай краіны сцэнару. Сутычкі, разгон — плюс улады паспрабавалі прэвентыўна расправіцца з актывістамі егіпецкага інтэрнэту.

Апазіцыя прызначыла чарговы мітынг не на наступны, працоўны дзень, а праз 3 дні — на выхадны дзень 28 студзеня. Яна ведала, што пры кантролі ўладаў над СМІ аднаго дня мала, каб распаўсюдзіць інфармацыю і падрыхтавацца.

Улады зноў зрабілі стаўку на тых, на каго рабілі стаўку заўжды, — егіпецкіх Яўсеевых і Паўлічэнак. Яны перакрылі інтэрнэт і мабільную сувязь, вывелі на вуліцы паліцыю. Аднак у той дзень аказалася, што крытычная маса пераадоленая. Спецназ не здолеў стрымаць народу, а калі стала ясна, што людзі такі прарываюцца на цэнтральную плошчу Тахрыр — сцэны на вуліцах нагадвалі мінскія падзеі 25 сакавіка 2006 года, але народу было нашмат больш, — Мубарак зрабіў фатальную памылку. Ён дазволіў адкрыць па людзях агонь.

Людской масы гэта не спыніла — людзей было столькі, што яны захоплівалі ў паліцыянтаў зброю і мірная дэманстрацыя ператварылася ў хаос. Пасля перастрэлак вуліца стала некантраляванай, а нянавісць да фальшывага рэжыму — бясконцай.

Дэманстранты спалілі зненавідны ЦК кіроўнай партыі, і толькі вывад войска на вуліцы спыніў штурм наступных будынкаў улады.

Аднак войска было войска і ва ўласны народ не страляла, бо не на тое яго вучылі, а дэманстранты таксама аказаліся мудрымі і кідалі ў БТРы не камяні, а словы братання.

Крытычная маса была пяройдзена і ў тым сэнсе, што падзеі 28 студзеня разгарнуліся не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах разлеглай краіны.

Егіпецкая апазіцыя і надалей чаргавала тактыку малых і вялікіх акцый. Гэта давала іх удзельнікам магчымасць займацца сваімі жыццёвымі справамі.

Рухавіком егіпецкай апазіцыі выступілі маладзёжныя арганізацыі. У гэтым сэнсе праклёны «Советской Белоруссіі» трапляюць па адрасе.

Працяг на старонцы 7.

# Сяргей Міхалок: «Я не хачу быць у натоўпе шалёных свіней»

**Лідар «Ляпіса Трубяцкога» расказаў пра новы альбом каманды, які называецца «Вясёлыя карцінкі». Таксама ён удакладніў сваю пазіцыю адносна выбараў у Беларусі.**

«У мяне няма інтэрнэту, няма тэлевізара, я не чытаю беларускіх газет, — сказаў музыка ў інтэрв'ю часопісу «Большой». — Сябры, у асноўным, нешта расказваюць аб тым, што адбываецца.

Якая мне розніца, што выбірае большасць. Я не хачу быць у натоўпе шалёных свіней, якія скачуць у мора, — як у вядомай казцы. У мяне ёсць свае погляды і перакананні. Гэта нават не датычыцца Беларусі, гэта глабальней. Хаця, канешне, шкада, што мы і так доўга сядзелі ўнутры нейкай бляшанкі, а цяпер гэтая бляшанка ўжо зусім стала гнісці — і зараз ніхто не выратуецца ад гэтых міязмаў».

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» цяпер знаходзіцца ў туры ў падтрымку новага альбома «Вясёлыя карцінкі», выхад якога запланаваны на 11 сакавіка.

Канцэрты ў Беларусі адбудуцца 16 лютага ў Баранавічах, 4 сакавіка — у Магілёве, 13 сакавіка — у Гомелі, 1 і 2 красавіка — у Мінску.

**Кастусь Матушыч**




«Многія чакалі, што пасля рэвалюцыйна-лозунгавых агітак мы альбо пераўтворымся ў вулічны субкультурны калектыў, у лідараў ска-панку, якія скоцяцца кудысьці ў глыбокі андэграўнд, — альбо крывадушна і жорстка вернемся ў нетры «Ляпіса-98», як я называю ансамбль, вядомы па хітах «Сочі», «Ты кінула». А я стаў думаць: што рухае чалавекам у памежных жыццёвых сітуацыях? Напрыклад, наколькі чалавек, ап'янёны рэвалюцыяй, можа захаваць у сабе любоў да чалавека, да бацькоўскай хаты, радзімы?
Наколькі эмацыйным можа быць Чэ Гевара, наколькі сентыментальным можа быць Гаўрош?
Я выкінуў з альбома ўсе песні, якія падыходзілі пад вызначэнне «ска-панк».

## Сцісла

• **20-градусныя маразы затрымаюцца не менш чым на два тыдні.** Інтэрнэт-сайт gismeteo.by прагназуе ў найбліжэйшы тыдзень да мінус 13 уначы ў Брэсце, да мінус 19 — у Мінску, мінус 27 — у Браславе і Полацку, на самай поўначы Беларусі. У цэлым 10—20-градусныя маразы затрымаюцца да канца месяца.

• **Палітзняволеная Наста Палажанка выкладае беларускую мову сукамерніцам.** Пра гэта яна паведамляе ў лісце тату. Наста піша, што мае добры настрой, чытае Біблію. І вучыцца рабіць розныя салаты з садавіны, якую атрымлівае ў шматлікіх перадачах. Іх прыносяць сябры, аднадумцы і проста людзі добрай волі.

• **«Беларуснафта», «Гомсельмаш» і МТЗ уключаныя ў планы акцыянавання на 2013 год.** Усяго ў спісе — 134 прадпрыемствы, у тым ліку ўся сістэма заводаў сельгасмашынабудавання. Акцыянаванне — гэта падрыхтоўчы крок да прыватызацыі.

• **Даляр паціху расце.** Курс даляра ЗША па выніках праведзеных 15 лютага біржавых таргоў вырас на 2 рублі і склаў 3019 рублёў. Курс еўра склаў 4077 рублёў.

• **Бандыта Мяліка пакараюць смерцю.** Вярхоўны суд Беларусі разгледзеў у касацыйным парадку і пакінуў без змены смяротны прысуд Магілёўскага абласнога суда ў дачыненні да Ігара Мяліка, кіраўніка бандытаў, якія нападалі і забівалі на трасе Магілёў — Гомель. У адказ на гэта генеральны сакратар Рады Еўропы Турб'ёрн Ягланд заклікаў Беларусь тэрмінова ўвесці мараторый на смяротную кару. Смяротнае пакаранне адменена ва ўсіх еўрапейскіх краінах, акрамя Беларусі, каб нават выпадкова не гінулі невінаватыя.

• **Дырэктара школы абвінавацілі ў крадзяжы грошай.** Паводле вынікаў папярэдняга расследавання, дырэктар школы на Вілейшчыне ў 2008—2009 гадах афармляў на работу людзей, якія насамрэч не працавалі. Грошы за падстаўных работнікаў дырэктар забіраў сабе.

• **Футбаліст Глеб падпісаў кантракт з «Дынама».** 28-гадовы Вячаслаў Глеб, брат знакамітага Аляксандра Глеба, паставіў подпіс пад клубным кантрактам на два гады. Глеб гуляў у Кітаі, спрабаваў працаўладкавацца ў Заходняй Еўропе, аднак працягне кар'еру на радзіме.

**СМ**

## Самае чытанае на nn.by за 9 — 15 лютага

- Гэта не было ў навінах: трэніроўка СОБРа, штурм фірмы — відэа
- «Мясніковічы ніколі ў КДБ працаваць не будуць!»
- «Лукашэнка разбіўся ў Сочы» — фальшыўка ў інтэрнэце
- У мінскай краме каля 30 падлеткаў учынілі бойку
- Праляскоўскі і Радзькоў на адкрыцці Кніжнага кірмашу пілі гарэлку
- Сікорскі расказаў, як Лукашэнка дражніў міністра Вэстэрвэле
- 72-гадовая Сафія Шастаковіч: «Я прайшла вайну, прайшла сталінскія этапы, таму і прыйшла на Плошчу»
- Выбары скончаны. Камуналка пайшла ў шалёны рост
- Рымашэўскі: Мне перад Лукашэнкам няма ў чым каяцца
- Зух Вялейскі. Песенька дыктатара



## Імша па Тарасу

**16 лютага** 30 дзён па Віталю Тарасу. Імша за памерлага адбудзецца **ў Архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў 18.30. Плошча Свабоды, 9.**

# Лукашэнка ў Сочы: катаўся, але не спаткаўся

Ён асвойваў новы курорт «Газпрама».

Не пазней чым ад 7 лютага і не менш чым тыдзень Аляксандр Лукашэнка адпачывае ў Сочы. Афіцыйна ён выйшаў у адпачынак з 7-га, але сочынскія СМІ фіксавалі Лукашэнку на прэстыжных трасах ужо 5 лютага.

Як паведамляе расійскае выданне «Камсамольскай праўды», кіраўнік Беларусі спыніўся ў спартыўна-аздараўленчым комплексе «Беларусь» у Краснай Паляне, але аблюбаваў нядаўна збудаваны на грошы «Газпрама» гарналыжны курорт «Лаўра», якому аддаюць перавагу таксама кіраўнікі Расіі.

На сайце yugopolis.ru відавочца адпачынку Лукашэнкі падзялілася ўражаннямі ад сумеснага з беларускім прэзідэнтам адпачынку: «Учора, 8 лютага, адкаталася са спадаром Лукашэнкам на адной трасе (канатная дарога «Горная карусель», належыць адміністрацыі Краснадарскага краю). Днём раней Лукашэнка катаўся на «Розе Хутар» (уласнасць Патаніных). Ён спускаўся ў атачэнні пятнаццаці чалавек, якія ўтварылі вакол яго трохкутнік».

У часе ранейшых паездак на адпачынак у Сочы Лукашэнка нярэдка сустракаўся з кіраўнікамі Расіі. На гэты раз такой інфармацыі не прыходзіла. Зрэшты, не было інфармацыі пра вяртанне прэзідэнцкага самалёта. Можа быць, Лукашэнка ўсё яшчэ чакае аўдыенцыі?

**Мікола Бугай**

## Жонкі палітвязняў прарваліся да расійскага пасла

Ніколі раней Сурыкаў не прымаў дэлегацый грамадзянскай супольнасці.

10 лютага Вольга Бандарэнка — жонка Змітра, Мілана Міхалевіч — жонка Алеся і Марына Адамовіч — жонка Міколы Статкевіча перадалі кіраўніку расійскай дыпмісіі зварот да прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. У іх сваякі зняволеных, што з'ядналіся ў Камітэт «Вызваленне», пішуць: «Мы просім Вас зрабіць усё магчымае, каб прымусіць беларускія ўлады адумацца. Яны запусцілі махавік рэпрэсіяў, які сёння перамолвае лёсы тысяч людзей у Беларусі. Арыштаваныя кандыдаты ў прэзідэнты, іх давераныя асобы, журналісты і маладзевыя актывісты ні ў чым не вінаватыя. Яны павінны быць вызваленыя, з іх павінны быць зняты абсурдныя і жудасныя абвінавачванні».

Ліст падпісалі Ала Саннікава, Вольга Бандарэнка, Уладзімір Халіп, Люцына Бельзацкая, Дар'я Корсак (Атрошчанкава), Надзея Радзіна, Ульяна Кобец, Уладзімір Палажанка, Марына Адамовіч, Мілана і Алена Міхалевіч, Зоя Яўменава, Марына Фядута.

Як вядома, прэзідэнт Мядзведзеў асудзіў парушэнні правоў чалавека ў Беларусі і арышт апанентаў Аляксандра Лукашэнкі ў часе сустрэчы з расійскімі праваабаронцамі. Ён таксама абмежаваўся вельмі стрыманым віншаваннем, якое даслаў праз тыдзень пасля выбараў.

Еўрасаюз і ЗША, з другога боку, не прызналі вынікаў выбараў законнымі і зрабілі адназначныя жэсты падтрымкі зняволеным і іхнім сем'ям.

Як паведаміла Мілана Міхалевіч, сустрэча была «даволі працяглай». «Амбасадар некалькі разоў паўтарыў фразу аб тым, што ўлада павінна быць велікадушнай і міласэрнай да сваіх грамадзян. Ён таксама адзначыў, што ў пытанні вызвалення людзей пазіцыя Расіі супадае з еўрапейскай пазіцыяй, і нагадаў аб нядаўняй заяве міністра Лаўрова», — сказала Міхалевіч.

**Мікола Бугай, Алесь Пілецкі**

## Будзем любіць і без узнагароды

Малады Фронт у другі раз уручыў прэмію за любоў да Беларусі. Але пераможцы ў намінацыях засталіся без сімвалічных статуэтак, бо іх сканфіскавалі супрацоўнікі КДБ.

За некалькі гадзін да ўручэння прэміі «Люблю Беларусь» стала вядома, што супрацоўнікі КДБ сканфіскавалі ў навучэнца мастацкай вучэльні «Глебаўкі» 8 статуэтак-узнагарод, якія прызначаліся для пераможцаў прэміі. 4 супрацоўнікі КДБ проста прыйшлі да маладога чалавека ў кватэру і без складання пратакола забралі статуэткі.

На імпрэзе, якая адбылася на Сядзібе БНФ, адсутнічалі не толькі статуэткі, але і большасць пераможцаў. Частка іх сядзіць у турме, другая — неўязныя. Дый арганізатары ўручэння прэміі не ўсе засталіся на свабодзе. Такая гэта была сёлета прэмія, са слязьмі на вачах.

У васьмі намінацыях на прыз было вылучана 39 кандыдатаў — ад асобаў да фестываляў.

У выніку сімвалічнай прэміяй былі ўзнагароджаныя 8 асобаў і арганізацый. Сярод іх беларуская версія інтэрнэт-энцыклапедыі «Вікіпедыя» — за ўнёсак у беларусізацыю, тайбаксёр Віталь Гуркоў — за спартовы патрыятызм і праваабаронцы з «Вясны» і Хельсінскага камітэта — за дапамогу палітвязням.

**Сяргей Гудзілін**




**Блогер Яўген Ліпковіч перадаў лаўрэатцы Насце Палажанцы дызайнерскую саколку. Наста не змагла атрымаць прэмію асабіста, бо сядзіць у СІЗА КДБ.**

## БНФ паміж Саннікавым і Мілінкевічам

Група Івашкевіча— Хадыкі заснавала аргкамітэт «Беларускага руху».

БНФ перажывае чарговую схізму. Больш за 90 актывістаў, сярод якіх ветэраны партыі, выйшлі з БНФ. Яны нязгодныя з палітыкай кіраўніцтва партыі, якая «не адпавядае выклікам сучаснасці, супярэчыць самому духу нацыянальнай дэмакратыі, свабоды, маральнасці і прынцыповасці».

У БНФ сцвярджаюць, што большасць з падпісантаў гучнай заявы ўжо некалькі гадоў не брала ніякага ўдзелу ў дзейнасці партыі.

Сярод падпісантаў — былы старшыня партыі Лявон Баршчэўскі, прафесар-фізік Юрый Хадыка, мастак Алесь Марачкін, экс-дэпутатка Вярхоўнага Савета Галіна Сямдзянава, кіраўнік Мінскай гарадской арганізацыі БНФ Віктар Івашкевіч.

Сябры БНФ, якія заявілі аб выхадзе, не лічаць годным змагацца за «тую фармальную абалонку, якая засталася ад ранейшай найбуйнейшай апазіцыйнай партыі краіны».

Пасля гэтай агульнай заявы з'явіліся і прыватныя, яшчэ больш рэзкія. У прыватнасці, Юрый Хадыка звінавачвае ў смяротных грахах Мілінкевіча: «Мілінкевіч відавочна выступае як згоднік, як агент гэтага рэжыму. І ў гэтым кірунку, на жаль, пайшоў БНФ».

11 лютага ў Мінску адбыўся сход былых сяброў БНФ, на якім быў створаны аргкамітэт новай партыі «Беларускі Рух». Пасяджэнне адбылося ў сядзібе незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці. Тамсама ў часе выбараў адбываліся публічныя імпрэзы Андрэя Саннікава.

Адзін з ідэолагаў БНФ Юрый Чавусаў успрымае такія дзеянні як недарэчнасць. «У сітуацыі, калі нам усім неабходнае яднанне, нельга паводзіць сябе такім чынам. Гэта была не проста нязгода з пазіцыяй Кастусёва. Гэта было непрыхаванае жаданне ісці на канфлікт. Гэтыя людзі не бралі ўдзелу ў кампаніі Кастусёва, працавалі на іншых кандыдатаў [В.Івашкевіч, У.Кобец — былі актыўнымі ўдзельнікамі штаба А.Саннікава]», — распавёў Чавусаў.

Паводле Чавусава, «гэта ўнутрыпартыйныя разборкі і яны павінны хутка скончыцца. Я жадаю новаму руху поспехаў, але паўтаруся, што гэтыя людзі мала рабілі апошнія некалькі гадоў», — заявіў спадар Чавусаў.

Паводле ўскосных ацэнак, Саннікаў набраў найбольш галасоў сярод апазіцыйных кандыдатаў. Кастусёў сабраў невялікую колькасць галасоў. Аднак у самой Партыі БНФ большасць выразна падтрымлівае Янукевіча, а не меншавікоў.

Можна чакаць, што «Беларускі рух» з яго сотняй актывістаў стане яшчэ адным са шматлікіх аргкамітэтаў, часам віртуальных, што фігуруюць на палітычнай арэне.

Яны існуюць як у кааліцыі, блізкай да Мілінкевіча, так і ў процілеглым кангламераце сілаў, саюзных з партыяй «Справядлівы свет» Калякіна і кампаніяй «Гавары праўду». Працэс драблення палітычных сілаў працягваецца ў часе, калі 52 асобы праходзяць па крымінальнай справе аб «беспарадках».

**Алесь Пілецкі**

**БНФ высяляюць з Сядзібы на Машэрава**

На сустрэчы з намеснікам старшыні Мінгарвыканкама намесніку старшыні БНФ Рыгору Кастусёву намякнулі, што БНФ варта шукаць сабе новы офіс. Дамова арэнды скончаецца 1 красавіка. Партыя будзе спрабаваць падоўжыць яе праз суд.

# Лідары падаражання — грэчка, сыр і цукар

**Як змяніліся цэны на прадукты за апошнія паўгода?**

| Цэны ва ўніверсаме «Цэнтральны» Мінска (у беларускіх рублях) | Хлеб «Барадзінскі» | Малако (1 л) | Батон (0,4 кг) | Яйкі (10 штук) | Вараная каўбаса (1 кг) | Сыр (1 кг) | Масла (200 г) | Смятана 20%, 0,5л | Грэчка (800 г) | Макароны(800г) | Курынае філе (1кг) | Цукар (1 кг) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2011 | 1760 | 1800 | 1990 | 4090 | 13800 | 19940 | 3570 | 4080 | 8850 | 2860 | 16840 | 3600 |
| 2010 | 1600 | 1700 | 1700 | 3950 | 13400 | 15000 | 3100 | 3500 | 3900 | 2700 | 14200 | 2720 |
| РОСТ ЦАНЫ | 11% | 6% | 17% | 4% | 3% | 33% | 15% | 17% | 227% | 6% | 19% | 32% |

Апошні раз «Наша Ніва» параўноўвала цэны ў мінскім універсаме «Цэнтральны» паўгода таму — у верасні 2010 года. Тады здзіўляў рост цэнаў на грэчку, смятану, масла і цукар. Як рухаліся цэны з таго часу?

Як і тады, найбольш падаражала грэчка. Леташняй восенню на прылаўках залежваліся 900-грамовыя пакеты з крупамі па 3900 рублёў. Цяпер упакоўка цаной 8850 успрымаецца за шчасце! Такому ажыятажнаму росту цаны — ажно 227% за паўгода! — пазайздросціць любы спекулянт.

Цана на цукар рэгулюецца дзяржавай, што не замінае ёй у апошні час расці двойчы за месяц. З 12 лютага пастановай міністэрства эканомікі кошт на расфасаваны цукар-пясок замацаваны на ўзроўні 3600 рублёў. Для параўнання, у мінулым студзені за кілаграм трэба было аддаць 2100 рублёў.

Сыры даражаюць пастаянна, але не так заўважна. Але агулам набегла 33% за паўгода — з 15 да 20 тысяч рублёў. Цэны смятаны і масла запаволілі свой рост.

Што вагаецца ў межах статыстычнай памылкі, дык гэта рост цэн на вараную каўбасу і яйкі (3-4%) і малако, якое падаражала ўсяго на 100 рублёў.

Як і паўгода таму, няма ніводнага тавару, які б патаннеў за вызначаны прамежак часу.

**Яўген Васількоў**

# Камуналка сапраўды вырасце не больш чым на $5

**Але задняй датай.**

З 1 лютага 2011 года ўведзеныя новыя цэны на паслугі ЖКГ. Як заўсёды, адпаведнае рашэнне Савет Міністраў прыняў пасля — 4 лютага. Гэта значыцца, што ўжо ў пачатку сакавіка беларусы атрымаюць даражэйшыя квітанцыі на аплату. Апошні раз камуналка паднімалася разам з 20%-й дэвальвацыяй — 1 студзеня 2009. З таго часу чыноўнікі шмат разоў абяцалі павышэнне тарыфаў, але пратрымалі іх да часу прэзідэнцкіх выбараў. Цяпер тыя рванулі ўверх.

| Від паслугі | Стары тарыф | Новы тарыф | Рост (у %) | «Эканамічна» абгрунтаваныя тарыфы | Колькі працэнтаў аплачвае насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|
| Тэхабслугоўванне (за 1 кв. метр агульнай плошчы) | 296 | 309 | 4,4 | 797,5 | 38,7 |
| Халодная вада (за 1 кубаметр) | 358,7 | 467,5 | 21,2 | 1440,9 | 32,4 |
| Гарачая вада і ацяпленне (за 1 Гкал) | 43458,3 | не змяніўся | | 108468,7 | 21,9 |
| Электраэнергія ў дамах без электрычных плітаў (за 1кВт/г) | 173 | 193,8 | 12 | 368,3 | 52,6 |
| Электраэнергія ў дамах з электрычнымі плітамі (за 1кВт/г) | 125,3 | 164,6 | 31,4 | 368,3 | 44,7 |
| Прыродны газ у кватэрах (за 1 кубаметр): | | | | | |
| У ацяпляльны сезон | 219,1 | 307,7 | 40,4 | 946,2 | 32,5 |
| У летні сезон | 462 | 848,7 | 83,7 | 946,2 | 89,7 |
| Звадкаваны газ у балонах (за 1 балон вагой 21 кг) | 33140 | 41430 | 25 | 62080 | 66,7 |
| Ліфт (з аднаго чалавека) | 1421 | не змяніўся | | 3867,9 | 36,7 |
| Вываз і абясшкоджанне смецця | 4764 | не змяніўся | | 12063,7 | 39,5 |

*Адлічэнні на капітальны рамонт роўныя тарыфу тэхабслугоўвання

### Рэкордны газ

Прадстаўнікі Савета Міністраў паспрабавалі запэўніць, што кошт жыроўкі паднімецца не больш чым на $5. І пакуль што гэтыя лічбы выглядаюць рэальнымі. Рэч у тым, што найбольш падаражалі паслугі, доля якіх у агульнай камуналцы не надта высокая. Напрыклад, кошт газу ў летні сезон вырасце ажно на 83%. Але ў гарадскіх умовах гэтыя змены дадуць нязначны агульны рост камуналкі. Электраэнергія падаражае на 12—31% у залежнасці ад таго, усталяваная ў кватэры газавая ці электрычная пліта. Халодная вада «падрасце» трохі больш, на 21%.

### Самае дарагое не падаражала

А вось тарыфы на ацяпленне, якое зімой у двухпакаёвай кватэры можа каштаваць і 50 тысяч рублёў, не змяніліся. Імаверна, падаражанне адбудзецца вясной ці летам, каб не шакаваць насельніцтва. Другі радок па «цяжкасці» выдаткаў — тэхнічнае абслугоўванне і роўныя яму адлічэнні на капітальны рамонт. Яны падрастуць на 4,4%, што дадасць для гаспадароў сярэдняй двухпакаёўкі 1300 рублёў. Зусім не змяніліся тарыфы на вываз і абслугоўванне смецця, ліфт і каналізацыю.

Праўда, для ўладальнікаў катэджаў і прыстых кватэр усталёўваюцца яшчэ больш жорсткія ўмовы. Напрыклад, ацяпленне для іх падаражае на чвэрць — з 86 800 да 108 500 рублёў.

### Не больш за 5 даляраў

Каб прааналізаваць, наколькі падаражаюць жыроўкі, «Наша Ніва» прааналізавала студзеньскія квітанцыі мінскіх кватэр. Напрыклад, кошт камунальных паслуг у двухпакаёвай кватэры плошчай 50 квадратных метраў, у якой жывуць два чалавекі, у студзені складаў 99 тысяч рублёў. Калі дадаць кошт электрычнасці — то 110 тысяч. Пры новых тарыфах, але ранейшых памерах спажывання рэсурсаў, квітанцыі павялічацца на 7 тысяч рублёў. А вось для трохпакаёўкі плошчай 70 квадратных метраў, у якой жывуць трое, агульны памер плацяжоў вырасце са 172 тысяч рублёў да 183 тысяч.

**ЯВ**

# Пангасіус вернецца

**Таўсталобік і карп не заменяць рыбу заморскую.**

Пасля таго як насельніцтва абурылася забаронай на імпарт в'етнамскіх пангасіуса і тэлапіі, Камітэт дзяржкантролю парэкамендаваў Міністэрству гандлю перагледзець сваё рашэнне. Спецыяльная міжведамасная камісія яшчэ раз абмяркуе стан рыбнага рынку краіны ў пачатку сакавіка. Па інфармацыі «Нашай Нівы», будзе прынятае рашэнне на карысць вяртання імпарту рыбы.

Нагадаем, што філе рачной рыбы не ўвозіцца ў Беларусь з пачатку года. Камісія Міністэрства гандлю вырашыла, што гурманам хопіць сваіх карпа і таўсталобіка. Яны не звярнулі ўвагу, што беларуская рыба даражэйшая за в'етнамскую.

Тым не менш, філе пангасіуса працягвае лідзіраваць па аб'ёмах продажаў. Пастаўшчыкі, якія ведалі, што можа быць уведзеная забарона на яго ўвоз, завезлі рыбу ў 2010-м з агромністым запасам.

**ЯВ**

## Сцісла

• **Звольняць кожнага сёмага бюджэтніка?** Міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец заявіў, што звальненне 10—15% супрацоўнікаў бюджэтных арганізацый дазволіць ашчадзіць больш за $600 мільёнаў. Цяпер у краіне налічваецца каля мільёна бюджэтнікаў.

• **Беларусы пачалі распрацоўку нафтавага радовішча Джафэір.** З 2010 да 2021 года сумеснае беларуска-іранскае прадпрыемства «Белпарс Петролеум Компані Лімітэд» разлічвае здабыць 9,3 млн тон нафты. Пасол Ірана Сеед Хасейні мяркуе, што наўпроставая купля Беларуссю гэтай нафты нявыгадная. Выгадней збываць яе на іншых рынках.

• **IKEA хоча стварыць прадпрыемства ў Магілёве.** Прадпрыемства, стварэнне якога мяркуецца распачаць сёлета, з'явіцца на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны. Амаль уся прадукцыя пойдзе на экспарт. Праект ацэньваецца ў 50 млн еўра.

• **У Барысаве пачнуць збіраць расійскія аўтобусы.** Беларускі бізнэсовец Ігар Кушнерскі плануе ў сакавіку адкрыць зборачную вытворчасць расійскага бюджэтнага аўтобуса ПАЗ. Брэнд належыць «Групе ГАЗ», уладальнікам якой з'яўляецца расійскі алігарх Алег Дзерыпаска. Зборка будзе ажыццяўляцца кампаніяй «Русպрамаўта». Першапачатковая магутнасць прадпрыемства — 10—15 аўтобусаў за год. Інвестыцыі дасягнуць каля $10 мільёнаў.

• **Праціўніка «Данон-Юнімілка» вярнулі на пасаду.** Дырэктар ААТ «Пружанскі малочны камбінат» Уладзімір Мікіціч быў спачатку звольнены за нязгоднасць з інвестарам, а праз 10 дзён аднаўлены ў пасадзе. Прычынай звальнення стала яго нежаданне паскорыць працэс кансалідацыі актываў малочнага камбіната і СП «Юнімілк-Пружаны». Пасля выступу кіраўніка дзяржавы назіральная рада камбіната адмяніла ўласнае рашэнне пра звальненне дырэктара.

**ЯВ**

# Сяргей Антонаў: «Я не мог крычаць антыдзяржаўных лозунгаў, я ж глухі»

Гісторыя, як 20 снежня затрымалі глуханямога, які выкрыкваў антыдзяржаўныя лозунгі, стала адным з цудаў выбарчага снежня. Гэта ж да чаго дайшло, што нават «глуханямыя» пачалі крычаць. Наш самы гуманны ў свеце суд не рашыўся глуханямога пасадзіць. Але і не апраўдаў. Адправіў справу на дапрацоўку ў міліцыю. Там яна і засталася.

Мы знайшлі героя гэтай гісторыі. Яго завуць Сяргей Антонаў. Ён кепска чуе — разбірае па вуснах і карыстаецца моцным слыхавым апаратам. Гаворыць ён голасам, але невыразна, як гавораць людзі з парушэннямі слыху.

**«НН»: Як ты апынуўся на плошчы 20 снежня?**

**СА:** Я прыйшоў на плошчу Незалежнасці, каб паглядзець на дзверы Дома ўрада. Як толькі я падышоў, з'явілася група маладых людзей з расцяжкай «Сыходзь» і адразу пачалася аблава на іх.

**«НН»: А ты ведаў, што ў гэты дзень там будзе пікет салідарнасці?**

**СА:** Не. Я проста прыйшоў з цікаўнасці паглядзець на дзверы. Калі пабачыў міліцыю, то, натуральна, спрабаваў сысці.

### «Не вапі»

**«НН»: Цябе білі пры затрыманні?**

**СА:** Мяне пацягнулі ў міліцэйскі аўтобус. Мяне схапілі за шапку, слыхавы апарат выпаў з вуха кудысьці ў цемру. Амапавец пабачыў, што я дрэнна чую і гавару, таму не стаў мяне біць. Потым, калі я ўжо сядзеў у аўтазаку, гэты самы спецназавец пайшоў шукаць мой слыхавы апарат, знайшоў яго і аддаў мне. Гэта было важна для мяне, бо апарат дарагі, каля 700 даляраў каштуе. У нас жа не выдаюць такіх бясплатна (гэта ў Расіі іх выдаюць бясплатна). Вялікі дзякуй гэтаму чалавеку.

**«НН»: Ты спрабаваў патлумачыць падчас затрымання, што ты выпадкова там апынуўся?**

**СА:** Я казаў ім, што я інвалід 3-й групы па слыху, паказваў пасведчанне. Але мне сказалі: «Не вапі, усё будзе добра». Я разумеў, што добра не будзе. Гэта было проста глупства — вінаваціць мяне, што я крычаў і не рэагаваў на папярэджанні міліцыі. Я не чуў ніякіх папярэджанняў, бо я глухі. І я не мог крычаць лозунгі з іншымі людзьмі, бо я фізічна не магу з кімсьці ў такт крычаць, я не магу паўтараць іх словаў.

**«НН»: А што табе напісалі ў справаздачы?**

**СА:** Нас адвезлі ў Маскоўскі РУУС і напісалі пратаколы «пад капірку», па копіі пратаколаў 19 снежня. Спецназаўцы былі нейкія малапісьменныя: яны нават не ведалі, як складаць пратаколы, бегалі запытвацца ў міліцыянтаў, як правільна гэта робіцца. Мне напісалі, што я трымаў расцяжку «Сыходзь» і крычаў антыдзяржаўныя лозунгі.

**«НН»: І якія лозунгі, на іх меркаванне, антыдзяржаўныя?**

**СА:** Там, здаецца, не пералічвалася, што я крычаў. Але нават сам факт таго, што я крычаў лозунгі, — гэта ўжо неверагоднасць. Я ў РУУСе тлумачыў, што я глухі і не мог гэтага рабіць. Але мне сказалі: «Нічога не можам зрабіць — гэта палітыка».

### Назваў Акрэсціна Асвенцімам

**«НН»: Куды цябе адвезлі пасля РУУСа?**

**СА:** У турму. Але я ў той момант не разумеў, куды дакладна мяне вязуць. Сказалі «Акрэсціна», а я не зусім правільна пачуў і памылкова называў Акрэсціна Асвенцімам.

**«НН»: Як да цябе паставіліся супрацоўнікі СІЗА?**

**СА:** Яны пабачылі, што я дрэнна чую, і былі лаяльнымі. Спакойна тлумачылі ўсё, паўтаралі, калі я не разумеў. На Акрэсціна да ўсіх затрыманых 20 снежня ставіліся добра. Бачыў аднаго хлопца, якога пры затрыманні моцна пабілі. У міліцыі гэты хлопец прасіў медыцынскай дапамогі, але яму адмовілі і хуткую ніхто не выклікаў. Дык на Акрэсціна, калі турэмшчыкі пабачылі гэтага хлопца, адразу вывелі да дактароў.

### Што яна кажа?

**«НН»: Якім чынам цябе судзілі?**

**СА:** Першае слуханне перанеслі, бо я папросту не разумеў суддзю. Яна была далёка ад мяне, і я не мог зразумець, што яна кажа. Суд перанеслі на некалькі гадзінаў пазней, і выклікалі мне сурдаперакладчыка. Дарэчы, у судзе мне нарэшце дазволілі патэлефанаваць родным.

Амонавец знайшоў мой слыхавы апарат у цемры і аддаў мне.

**«НН»: Як твая сям'я паставілася да затрымання?**

**СА:** Яны былі рады, што я знайшоўся. Да гэтага бацькі ведалі толькі, што я прапаў, і нават падалі заяву ў міліцыю ў росшук. Самае цікавае, што міліцыя прыняла заяву, што я «знік», і не магла мяне «знайсці» яшчэ два дні. 21 раніцай у мяне быў суд, а толькі 22 снежня, на думку міліцыі, я «знайшоўся».

**«НН»: Ты сказаў, што першы суд перанеслі. А як прайшоў другі суд, цябе абвінавацілі?**

**СА:** А 14-ай гадзіне пачалося другое слуханне. Я казаў, што «я ні ў чым не вінаваты, я нічога не рабіў». Суддзя ўважліва выслухаў бацькоў, але адваката не было і сведкаў не было. Спадзявацца на добрае скончэнне гэтага слухання не прыходзілася. Але суддзя Есьман прыняў рашэнне адправіць пратакол на дапрацоўку.

Мяне не апраўдалі, хаця гэта лагічна было б. Адправілі пратакол на дапрацоўку, быццам там дробная нейкая памылка, якую яны выправяць, і апынецца, што я ўсё роўна вінаваты.

У той жа дзень мяне адвезлі ў Маскоўскі РУУС, дзе напісалі чарговы пратакол, паводле якога я ўсё роўна трымаў расцяжку і крычаў. Я ў пратаколе ім напісаў, што «не згодны», і мяне зноўку павезлі на Акрэсціна.

### Цяпер мяне шукае КДБ

**«НН»: Дык што, потым быў яшчэ трэці суд? Мусілі ж цябе асудзіць ці апраўдаць?**

**СА:** Не, нічога не было. Раніцай выклікалі на Акрэсціна да начальніка і адпусцілі, бо не «пабачылі маёй віны». Папросту вывезлі ў горад на аўтобусны прыпынак і адпусцілі.

**«НН»: Значыцца, ты каля трох дзён быў затрыманы, але ніхто цябе не асудзіў і гісторыя скончылася дастаткова добра?**

**СА:** Амаль што, але цяпер мяне шукае КДБ. Яны маім бацькам ужо некалькі разоў тэлефанавалі. Але я пакуль не ведаю, што яны ад мяне хочуць. Я ні ў чым не быў вінаваты, і той дзень мне расплюшчыў вочы на тое, што мы не бачым і не чуем.

**Настасся Шамрэй**

Сяргей Антонаў дзякуе ўсім, хто яго падтрымаў. «Дзякую і тым супрацоўнікам праваахоўных органаў, хто па-людску ставіўся да мяне ў часе затрымання».



Усіх у аўтазак — 20 снежня.

**Сяргей Антонаў, 29 гадоў**

мае вышэйшую адукацыю, працуе інжынерам-канструктарам на дзяржаўным прадпрыемстве, водзіць машыну. Можа размаўляць голасам і чуе з дапамогай слыхавога апарата, але чуе слаба. Мае інваліднасць па слыху (3-ю групу). Сяргей Антонаў фатаграфавацца адмовіўся з меркаванняў прыватнасці.

# Невядомы паплечнік Статкевіча

Сяргей Марцалеў не быў на Плошчы 19 снежня, але абвінавачваецца ў арганізацыі беспарадкаў.

Ад яго апошняга прыйшоў ліст з турмы КДБ. І за паўтара месяца зняволення была толькі адна сустрэча з адвакатам.

Першы ліст Сяргей Марцалеў даслаў бабулі Зоі Фёдараўне ў канцы студзені. Ён быў зусім кароткі. А на мінулым тыдні прыйшоў ужо другі допіс. Значна большы. У ім Сяргей жартаваў нават.

### Не думаў, не гадаў

Марцалеў быў кіраўніком штаба кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча. Калі 19 снежня на плошчы пачаўся хапун, Сяргея не забралі: яго там не было. Ён удзельнічаў у шэсці з Кастрычніцкай плошчы да Дома ўрада. А пасля сышоў.

«Яму трэ было адразу з'язджаць у Польшчу», — адзначае яго бабуля Зоя Фёдараўна. А ён адмаўляўся ехаць.

Паплечнік па сацыял-дэмакратыі Аляксей Сігаеў кажа, што Сяргей не верыў у сваё затрыманне. «Я напаўжартам у яго запытаўся: «Ты яшчэ на волі?» Ён сказаў, што баяцца няма чаго. Маўляў, ён нічога не рабіў».

Арыштавалі Марцалева ўначы 23 снежня, знялі з цягніка. Ён ехаў у Варшаву для ўдзелу ў перадачы «Белсата». Перавезлі ў турму КДБ.

«Добра, што ён не абвясціў галадоўкі», — заўважае Зоя Фёдараўна. Лічыць, што так яшчэ горш сабе зрабіў бы.

### Адзначаны Пазняком

Сяргей нарадзіўся ў сям'і патомных акадэмікаў.

Бацька Станіслаў Марцалеў узначальваў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук.

Дзед Леанід Яўменаў — акадэмік-філосаф.

Сяргей у чыстую навуку не пайшоў, але пераняў любоў да чытання.

Зоя Фёдараўна (пасля разводу бацькоў Сяргей з маленства жыў з бабуляй) успамінае выпадак, калі ён не хацеў спаць і прасіў яе пачытаць перад сном. Было яму толькі чатыры гады. А Зоі Фёдараўне трэ было прагледзець апошні нумар газеты «Правда». І жанчына ўзялася чытаць перадавіцу. Спыталася, ці яму цікава. Хлопчык адказаў, што так. І слухаў далей.

Сам чытаць Сяргей навучыўся задоўга да школы. Чытаў запоем. Падчас перабудовы яшчэ падлеткам пачаў цікавіцца палітыкай. У 13 гадоў разам з сябрам зайшоў на сядзібу Партыі БНФ. Там падлеткаў прыкмеціў Пазняк і назваў іх «нашай будучыняй». Для хлопца гэта было запамінальна. Сваёй радасцю ён адразу падзяліўся з бабуляй.

### Адлічаны Казуліным

Яго і з факультэта міжнародных адносін БДУ выключалі за актыўную грамадзянскую пазіцыю. Сяргей пратэставаў супраць размеркавання студэнтаў у чарнобыльскую зону. Афіцыйна выключылі яго за непаспяховасць, хаця вучыўся ён добра. Рэктарам БДУ тады быў Аляксандр Казулін.

Калі ўжо Казулін пайшоў у палітыку, Марцалеў разам з ім працаваў. Зоя Фёдараўна кажа, што ўнук крыўды не трымаў.

Пасля адлічэння з БДУ Сяргей паступіў у Расійскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт. І там не давучыўся. Яго папрасілі вярнуцца ў Беларусь, дзе абралі старшынёй Маладой грамады — моладзевай арганізацыі пры Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада).

Лідар сацдэмаў Анатоль Сідарэвіч адзначае, што запомніўся Сяргей не шарагоўцам, а дэманстрантам. «Запомніў яго мужную галадоўку ў ізалятары на Акрэсціна». Сяргей «не згадзіўся з тым, каб Мікола Статкевіч падмяў Маладую грамаду пад партыю». Выступаў за аўтаномны статус. Але пасля працаваў і са Статкевічам — кіраваў яго выбарчым штабам. Марцалеў — чалавек неканфліктны, ставіць палітычнае над асабістым.

Пасля дзвюх няўдалых спробаў атрымаць вышэйшую адукацыю паступіў ў Познанскі ўніверсітэт на паліталогію.

### Узрост Хрыста

Зоя Фёдараўна штотыдзень адпраўляе ўнуку па тры лісты. Падпісала на люты яго на пяць газет, у тым ліку на «Нашу Ніву». Але Сяргей напісаў, што атрымлівае толькі «Комсомольскую правду в Белоруссіі». Жанчына спадзяецца, што яго выпусцяць хутка. Каб унук нарэшце ашчаслівіў яе — ажаніўся. «Сяргею 33 ужо гады. Узрост Хрыста», — заўважае яна.

**Сяргей Макарэвіч**

# Якубовіч сам майстар прыняць на грудзі, а Някляеў ніякі не алкаголік


PHOTO.BYMEDIA.NET

Не чытаю тэкстаў Паўла Якубовіча. Разам з Паўлам Ізотавічам я працаваў у «Крыніцы» — «Роднике». Назваць яго журналістам не магу. Калі паўтараць словы Антона Луцкевіча, дык магу сказаць, што «не можна чакаць ад рэпарцёра, каб стаў журналістам па заказе».

Не чытаў я і сачыненне Якубовіча ў «Саўбелцы» з нагоды падзеяў 19 снежня. Менавіта сачыненне, менавіта з нагоды, бо з ранейшага досведу ведаю, што Павел Якубовіч умее сачыняць «з нагоды» («по случаю»).

І вось чытаю ў апошнім нумары «Народнай Волі» нататкі Віктара Дашука і ў самым postscriptum'е спатыкаюся на такое: Якубовіч у тым сваім сачыненні сцвярджае, што «В. Некляев в прошлом — фактически алкоголик».

Віктар Дашук як былы сабутэльнік Уладзіміра Някляева і Паўла Якубовіча сведчыць: Якубовіч «пил не меньше, чем Некляев, а часто — и намного больше!».

Сведчу і я: цяперашні «сенатар» і галоўрэд быў майстар «прыняць на грудзі». (Між іншым, я стараўся пазбягаць выпівак з Якубовічам: мне не падабаўся яго пошлы гумар.)

Але я пра іншае.

Алкагалізм — дыягназ. Хвароба. І страшная, нават брыдкая хвароба. Асабліва для родных і блізкіх алкаголіка, ягоных сяброў.

Не буду распінаць, каб давесці, што Уладзімір Някляеў алкаголікам ніколі не быў.

Яго публічная дзейнасць, творчасць і творы — найлепшы доказ гэтага. Затое я сцвярджаю, што Якубовіч узвёў паклёп на чалавека. І Уладзімір Някляеў пры жаданні можа ўчыніць пазоў паклёпніку. Але я чамусьці ўпэўнены, што паэт не будзе пэцкацца, пішучы заявы. А Якубовіч упэцкаўся чарговы раз.

**Анатоль Сідарэвіч**

### ДАСЛОЎНА

**Віктар Марціновіч: Журналістаў у спісе неўязных няма**

Выкажу ўласнае меркаванне: журналістаў у маім разуменні слова «журналіст» у спісе няма. Ніводнага.

**Baj.by**

## Пра «Юнімілк» і «Год прадпрымальнасці»

Як дурны жарт: адной рукой беларускія ўлады абвесцілі 2011 год «Годам прадпрымальнасці», а другой Аляксандр Лукашэнка пагражае выгнаннем з Беларусі «Danone-Юнімілк».

Улада ў самы нязручны момант па-хамску пагражае замежнаму інвестару, а перад тым напалохала інфармацыйную прастору ўвядзеннем дзяржаўнага кіравання на прыватным «Пінскдрэве».

Аб прычынах такіх дзеянняў можна толькі здагадвацца. Магчымая версія — гэта падрыхтоўка да маштабнага перадзелу дзяржаўнай маёмасці паміж набліжанымі да двара, удзелу ў якой замежных інвестараў не прадугледжваецца.

Але можа быць і іншае — у асобы, пад якую заточанае кіраванне ўсімі ключавымі працэсамі ў Беларусі, здаюць нервы, і бяссільная злосць ад таго, што глеба сыходзіць з-пад ног, пераважвае рацыянальныя аргументы.

**Алесь Чайчыц**

## Чаго баяцца западнарусы

Пра гэта ды многае іншае піша навукова-асветніцкі партал «Западная Русь».

Думаеце, западнарусы засталіся ў XIX ст.? Памыляецеся. Ёсць і цяпер людзі, якія адмаўляюць, што беларусы — гэта нацыя. Яны лічаць беларусаў часткай «трыадзінага расійскага народа».

Цяпер яны маюць свой інтэрнэт-партал «Западная Русь», які дзейнічае ад лета мінулага года.

Галоўнай пагрозай западнарусы лічаць распаўсюд тэорыі, што калыскай беларускай дзяржаўнасці было Вялікае Княства Літоўскае.

«У перспективе яны здольныя змяніць не толькі культурны, але і нацыянальны складнік беларускай самасвядомасці», — піша палітолаг Юрый Паўлавец.

Прычынай узнікнення ідэалогіі ліцвінства ў сучаснай Беларусі Іван Таляронак бачыць у безыдэйнасці грамадскага ладу краіны.

След ліцвінства аўтары партала адсочваюць нават у падзеях 19 снежня — хоць гэта поўная лухта.

Пра што яшчэ можна даведацца з матэрыялаў партала? Вялікая ўвага надаецца асобе расійскага генералісімуса Аляксандра Суворава. Сярод аўтараў — дырэктарка кобрынскага музея імя Суворава Алена Бабенка. Менавіта ёй належаць гэтыя радкі, прысвечаныя «подлинному национальному герою Белой Руси»: «Вось ужо пятае дзесяцігоддзе глядзіць са свайго пастамента пільным поглядам з глыбіні стагоддзяў неперамажны палкаводзец А.В. Сувораў. У гэтым выразным поглядзе сапраўды можна прачытаць: «Дарэмна рушыць на Расію ўся Еўропа...».

Францыск Скарына паўстае на партале як Георгій, рускі першадрукар, а бітва пад Оршай — братазабойчая разня, якой не варта ганарыцца.

Сярод сталых аўтараў партала — шмат уплывовых людзей. Гэта галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін, намеснік дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Леў Крыштаповіч, гісторык Эдуард Загарульскі, журналіст тэлеканала АНТ Вячаслаў Бандарэнка.

**Сямён Печанко**


**У якасці сімвала «Западная Русь» выкарыстоўвае віфлеемскую зорку. Як, дарэчы, і Беларуская хрысціянская дэмакратыя.**

Ідэолагі сучаснага западнарусізму — на zapadrus.su.

### З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

## «Хацелася б пажадаць гэтаму адэкватнаму міліцыянту прасоўвання па службе»

**Увечары я з жонкай ішоў па двары, жылой зонай паміж дамамі № 2 па Асіпенкі і № 26/1 па Старавіленскім тракце.** Побач з намі спынілася міліцэйская машына, на борце нумар К907 (магчыма, 607). Адчыніліся дзверкі, высунуўся супрацоўнік міліцыі і праглаголіў: «Ты што, ахранеў? Жыць надакучыла? Не бачыш, што машына едзе?» А зачыняючы дзверы, дадаў: «Уроды». З выгляду не вельмі цвярозы, ды і як яшчэ можна патлумачыць такія паводзіны?

Каб не правакаваць канфлікту, мы папрасілі прабачэння (толькі я не зразумеў, за што) і паспяшаліся ў процілеглым напрамку.

Хацелася б пажадаць гэтаму адэкватнаму супрацоўніку моцнага здароўя і прасоўвання па службе.

**Уладзімір Сяргеевіч, Мінск, yandex.ru**

## Не заказвалі

**10 лютага маім бацькам прыйшла бандэроль з вайсковай часці 3310, дзе праходзіць службу мой малодшы брат.** У бандэролі — каляндар з ілюстрацыяй прыняцця ім прысягі (прысяга адбудзецца 19 лютага).

Але галоўнае тое, што бацькам давялося заплаціць за гэты каляндар 25 тысяч рублёў, а яго ніхто не заказваў, проста такая ініцыятыва камандавання.

**N, tut.by**

## Хто данясе праўду пажылым людзям?

**Сустрэла адну сваю знаёмую бабульку.** Яе ўнучка і мой сын некаторы час вучыліся ў адным класе гімназіі. Разгаварыліся, як заўсёды, пра дзяцей. Бабуля са шкадаваннем расказала пра тое, што ў школе, дзе вучыцца яе ўнучка, ангельскую мову вядуць студэнты, і цяжка казаць пра добры ўзровень выкладання. Я пагадзілася з тым, што нашым дзецям цяпер асабліва важна ведаць замежныя мовы, бо Еўропа пасля падзей 19 снежня робіць велізарны крок нам насустрач у візавым аспекце.

Выявілася, што бабуля нічога не ведае пра тое, што насамрэч адбылося ў дзень выбараў і працягвае адбывацца ў нашай краіне дагэтуль.

Я расказала. Расказала пра тое, як жорстка была разагнаная Плошча. Расказала пра бесперапынныя рэпрэсіі, пра вязняў КДБ, пра міжнародны рэзананс. Бабуля слухала мяне са слязьмі на вачах, а потым прашаптала: «Дык гэта ж улада на крыві…» Мы развіталіся. Пажылая жанчына пакрочыла дамоў з цяжкім сэрцам.

А я з цяжкім сэрцам думаю пра пакаленне пенсіянераў, якое ў асноўнай сваёй масе жыве ў няведанні. Змушанае жыць, бо не мае інтэрнэту, спадарожнікавага тэлебачання, не ведае пра незалежную прэсу. Гэтае пакаленне часта вінавацяць у тым, што яно на кожных выбарах нязменна падтрымлівае Лукашэнку. Але ці можам мы папракнуць пажылых людзей у чэрствасці і абыякавасці? Ці можам мы вінаваціць іх у тым, што цягам нялёгкага жыцця яны проста былі прывучаныя верыць усяму, што выдаюць афіцыйныя СМІ? І хто данясе ім праўду?

**Ірына Храмава, Гомель**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Наглядная агітацыя. Жывы архіў.**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса.
Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.
e-mail: nn@nn.by.**

Матэрыялы на старонках «Каментароў» могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.

# Мубарак сыходзіць у няславе, без шанцаў для сына

Працяг са старонкі 2.

Яны вылучылі вельмі памяркоўную праграму, каб далучыць да пратэстаў мусульман і хрысціян, рэлігійнае брацтва «Браты-мусульмане» і прафесійныя суполкі суддзяў, адвакатаў, медыкаў.

Лідар апазіцыі Махамед эль-Барадэі не пабаяўся вярнуцца ў краіну, дзе яго маглі чакаць рэпрэсіі.

17 дзён пратэстаў спатрэбілася, каб сыход гаранта егіпецкай канстытуцыі стаў непазбежнасцю. Ён адчайна чапляўся за ўладу, думаў, што вулічная актыўнасць схлыне, а ён застанецца.

Долю Мубарака перакрэсліла сама сістэма псеўдадэмакратыі з псеўдавыбарамі, якую ён стварыў. Ягонае жаданне перадаць уладу сыну выклікала маўклівае непрыманне егіпецкага грамадства і палітычнай эліты — гэтаксама як у Беларусі і генералы, і настаўніцы з аднолькава маўклівым асуджэннем назіраюць кар'еру Міколкі.

Мубарак пераседзеў у сваім крэсле.

Пры дэмакратыі прэзідэнт сыходзіць у рамках сістэмы. Пры дыктатуры наступны дыктатар найчасцей выдаляе папярэдніка і ягоную сям'ю. Проста стабільнасць сістэмы таго патрабуе.

Напэўна, калі б Мубарак сышоў раней, падрыхтаваўшы запасныя аэрадромы, яму было б лягчэй кантраляваць сітуацыю. А зараз у новай сістэме ягоная сям'я страціць уплывы стопрацэнтова, а сам ён будзе вагацца між эміграцыяй і рызыкамі новага існавання.

Хоць Мубарак быў верным саюзнікам ЗША і Ізраіля, замежныя партнёры зацікаўлены ў захаванні адносінаў, а не фігураў. Нешта падобнае пераглядаецца ў цяперашняй палітыцы Масквы ў Беларусі.

Падзеі ў Егіпце запіша сабе на замежнапалітычны рахунак прэзідэнт Абама. Ён без ужывання сілы рэалізуе на Блізкім Усходзе задачы, якія прэзідэнт Буш спрабаваў дасягнуць вайной. У чацвер Абама сказаў, звяртаючыся да студэнтаў: «Што абсалютна ясна — гэта тое, што мы назіраем гістарычны паварот. Народ Егіпта патрабуе перамен. Гэта людзі розных узростаў і сацыяльных груп — але найперш маладыя людзі — новае пакаленне, ваша пакаленне, якое хоча, каб іх галасы былі пачуты — а мы хочам, каб гэтая моладзь ведала: ЗША будуць падтрымліваць арганізаваны пераход да дэмакратыі».

Змена ўлады ў Егіпце сапраўды адбываецца арганізаваным шляхам, і хоць ужыццё сілы Мубаракам прывяло да некалькіх дзясяткаў ахвяраў, аднак гэта няшмат, улічваючы памер краіны, тэмперамент і гвалтоўныя палітычныя традыцыі (папярэдні прэзідэнт загінуў у тэракце, значная частка насельніцтва застаецца непісьменнай).

Амерыканцы працавалі з егіпецкімі сілавікамі, свецкай чынавенскай элітай і рознымі сіламі апазіцыі, каб стрымаць усіх іх ад ужыцця сілы і каб не дапусціць радыкалізацыі апазіцыі.

Паводзіны сілавікоў мяняюцца, як толькі дыктатар пачынае залежаць ад іх. Дыктатар ці псеўдадэмакратычна абраны прэзідэнт — розніца тут невялікая.

«Арганізаванай» змены ўлады ў Егіпце не адбылося б без вулічных пратэстаў. Яе не адбылося б і без гатоўнасці дэманстрантаў шукаць кропкі судакранання з сілавікамі, гатоўнасці апазіцыі прыняць сілавікоў як частку будучага раскладу сілаў.

Фактычна, карыстаючыся вулічным ціскам, сілавікі вырашалі, хто стане кіраваць краінай наступны, каб захаваць стабільнасць. Мубарак і прызначаны ім афіцыйны пераемнік Сулейман былі толькі кансультантамі пры гэтым, нароўні з апазіцыяй.

Егіпет — 80-мільённая махіна, частка рэгіёна з крохкім балансам сілаў.

Самы знакаміты егіпецкі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат Нагіб Махфуз у сваім рамане-прыпавесці «Паданні нашай вуліцы» апісаў Егіпет у вобразе вуліцы на краі пустыні, падзеленай на кварталы-кланы, дзе пануюць сіла і грошы. Героі ўзнімаюць паўстанні, прыходзяць да ўлады, але толькі на іх асабістым этасе трымаецца справядлівасць, і пасля іх смерці ўсё вяртаецца на рэйкі дыктатуры. Карацей, гэта не «Каласы пад сярпом тваім», гэта прыпавесць з нееўрапейскім пачаткам і канцом.

І тым не менш, падзенне яшчэ аднаго псеўдадэмакратычна абранага прэзідэнта вымушае турбавацца ягоных калег-дыктатараў і натхняе ўсіх прыхільнікаў свабоды. Французскі філосаф Андрэ Глюксман з гэтай нагоды працытаваў другога філосафа: «Што б там ні адбылося, давайце вітаць перамены «з сімпатыяй, якае мяжуе з энтузіязмам», як казаў Кант аб Французскай рэвалюцыі».

На апошніх прэзідэнцкіх выбарах Мубарак напісаў сабе 88% галасоў, а суперніку-лібералу — 7. Тыя самыя працэнты атрымлівалі на сваіх «выбарах» прэзідэнты Бакіеў і бэн Алі.

Вынікам стала Плошча. Плошча Тахрыр у Каіры спявала егіпецкі дзяржаўны гімн. Некалі і беларуская Плошча здольна заспяваць: «Слаўся, зямлі нашай светлае імя!» Хоць цяпер тое цяжка ўявіць і пацярпелым на снежаньскай Плошчы, і тым, хто іх разганяў.

Дарэчы, Мінск і Каір знаходзяцца ў адным часавым поясе.




# Пафала Макею: Унясіце свой уклад у вызваленне палітвязняў

## Кіраўнік ведамства канцлера Германіі адказаў на пытанні «Нашай Нівы».

Беларуска-нямецкія адносіны пагоршалі да свайго найгоршага ад 1991 года стану. Германія рэзка негатыўна ацаніла ход выбараў і пагром апазіцыі пасля іх. У сваю чаргу, беларускае кіраўніцтва і афіцыёзныя СМІ абвінавацілі нямецкія спецслужбы ў тым, што яны стаялі за арганізацыяй беспарадкаў у Мінску.

Гэта выклікала задумленне аналітыкаў: чаму Мінск, нібы адмыслова, пайшоў на гэтыя крокі?

У сваю чаргу, Германія з прыхільніцы дыялогу з Мінскам перайшла на пазіцыю падтрымкі санкцый супраць лукашэнкаўцаў.

31 студзеня Еўрасаюз такія санкцыі ўвёў. Больш за тое, еўрапейскія дыпламаты не хаваюць, што ў выпадку расправы з палітвязнямі ці інтэнсіфікацыі рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці санкцыі будуць узмоцнены.

«Наша Ніва» папрасіла кіраўніка ведамства канцлера Германіі Рональда Пафалу адказаць на некалькі пытанняў адносна бягучай сітуацыі.

Пафала мае вялікі ўплыў на фармаванне беларускай палітыкі Германіі. Ён і асабіста заангажаваны ў беларускае пытанне, бо наведваў Мінск яшчэ да таго, як заняў пасаду, эквівалентную беларускаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта.

Пытанні задаваліся і адказы прыйшлі праз электронную пошту.



Калі Лукашэнка не зрушыцца са сваёй пазіцыі, то паўстане неабходнасць абмяркоўваць дадатковыя крокі.

**— Рада міністраў ЕС наклала на лукашэнкаўцаў візавыя санкцыі, але, насуперак закліку Еўрапарламента, у рашэнні не згадваецца пра эканамічныя меры. Чаму Еўрасаюз не захацеў накласці эканамічныя санкцыі на лукашэнкаўцаў? Ці ён не мог?**

— Дазвольце спачатку сказаць некалькі слоў з нагоды сітуацыі ў Беларусі. Падзеі 19 снежня трагічныя. Трагічныя для тых людзей, якія атрымалі траўмы і былі арыштаваныя, і трагічныя для ўсёй краіны.

У дадзенай сітуацыі Еўрапейскі Саюз мае дзве мэты: з аднаго боку, шляхам прымянення санкцый да прадстаўнікоў рэжыму ён збіраецца паказаць, што абраны шлях рэпрэсій і дыктатуры — памылковы. Таму ЕС 31 студзеня 2011 года абвясціў пра абмежаванне паездак і блакаванне актываў у адносінах да 157 асоб. Ад шэрагу раней запланаваных кантактаў з урадам з прычыны сітуацыі, што склалася, нам прыйшлося адмовіцца.

З другога боку, мы збіраемся пашырыць нашу падтрымку для грамадзянскай супольнасці. Мы хочам падтрымаць сілы свабоды, хочам павялічыць колькасць кантактаў. Бо ў адным я асабіста перакананы: Беларусь — краіна еўрапейская, якую нельга навекі адхіліць ад вяршэнства закона, ад павагі да правоў чалавека і дэмакратыі.

Канкрэтна гэта азначае, што трэба нарошчваць і дыферэнцыяваць падтрымку і спрашчаць доступ да візаў. Па гэтых пытаннях мы дасягнулі сур'ёзнага прагрэсу на канферэнцыі донараў, якая прайшла 2 лютага ў Польшчы.

Германія ў гэтым годзе надасць беларускай грамадзянскай супольнасці дапамогу ў памеры 6,6 млн еўра.

За кошт гэтых сродкаў фінансуюцца, сярод іншага, стыпендыі, павышэнне кваліфікацыі журналістаў і праекты па садзейнічанні дэмакратыі і вяршэнству права. Акрамя таго, Германія будзе бясплатна выдаваць нацыянальныя візы. Нароўні з гэтым, Федэральны ўрад дабіваецца таго, каб і шэнгенскія візы для прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасці афармляліся ў большым аб'ёме і без спагнання звычайных збораў.

**— Санкцыі прынятыя. Што далей?**

Галоўным нашым патрабаваннем застаецца вызваленне палітычных зняволеных. У рамках ЕС мы вырашылі з усёй паслядоўнасцю дамагацца гэтай мэты. Магу Вас запэўніць, што я, таксама з улікам шматлікіх кантактаў з людзьмі, якія непасрэдна трапілі пад рэпрэсіі, не буду аслабляць сваіх намаганняў.

Як я ўжо намякаў: калі прэзідэнт Лукашэнка не зрушыцца са сваёй пазіцыі, то паўстане неабходнасць абмяркоўваць дадатковыя крокі.

Маюцца на ўвазе і разглядаюцца дзяржавамі-членамі ЕС дадатковыя мэтанакіраваныя меры па ўсіх кірунках супрацоўніцтва. Рашэнні, прынятыя ЕС 31 студзеня, з'яўляюцца прамым адказам на падзеі ў дзень выбараў у снежні мінулага года. У залежнасці ад далейшага развіцця сітуацыі ў Беларусі будуць неабходныя іншыя рэакцыі ў адказ. Пры гэтым трэба забяспечыць, каб пад ударам апынуліся тыя, хто нясе адказнасць, а насельніцтва ад прынятых дзеянняў не пацярпела.

Аднаго, аднак, не пазбегнуць: у цяперашніх абставінах ужо зараз кожны патэнцыйны інвестар будзе старанна абдумваць пытанне, ці варта яму ў дадзенай сітуацыі інвеставаць у Беларусь.

**— Якім будзе Ваша асабістае пасланне Вашаму калегу, спадару Макею?**

Мой заклік да яго наступны: унясіце свой уклад у вызваленне палітычных зняволеных. Займанне ўладных пазіцый у аўтарытарным урадзе заўсёды звязана з вялікай доляй асабістай адказнасці.

**Андрэй Дынько**

# Аналітыкі банка Raiffeisen раяць Лукашэнку дэвальвацыю

У адваротным выпадку Беларусь чакаюць фінансавыя цяжкасці.

Беларускім уладам прыйдзецца тым ці іншым чынам вырашыць праблему адмоўнага сальда замежнага гандлю, лічаць аналітыкі банка Raiffeisen. Інакш у краіне не застанецца золатавалютных рэзерваў.

Аўстрыйскі банк Raiffeisen актыўна ўцягнуты ў аперацыі з Беларуссю. Групе Raiffeisen належыць беларускі «Прыёрбанк», што робіць яе ўнікальным еўрапейскім удзельнікам беларускага фінансавага рынку.

Каментуючы заяву Нацбанка Беларусі, што зніжэнне валютных рэзерваў у студзені на 14% выклікана сезоннымі ваганнямі, эксперты адводзяць сезоннасці апошняе месца ў спісе прычын, а найперш адзначаюць дырэктыўны рост эканомікі і крэдытавання, павышэнне зарплат і скарачэнне расійскіх энергетычных субсідый.

На думку Raiffeisen, неабходна прыватызацыя. А таксама дэвальвацыя беларускага рубля, якая прывядзе да падаражання імпарту і патаннення экспарту. Таксама яны рэкамендуюць скарачэнне бюджэтных выдаткаў, зніжэнне аб'ёмаў крэдытавання беларускай эканомікі.

Калі непапулярныя меры не будуць прынятыя, то, на думку аналітыкаў, гэта выкліча праблемы ў беларускай фінансавай сістэме.

У студзені валютныя рэзервы Беларусі знізіліся на 670 млн даляраў. Дэфіцыт замежнага гандлю ў 2010 годзе дасягнуў рэкорднага памеру 7,4 млрд даляраў, што на 1,9 млрд больш, чым у 2009 годзе. Пры такім перавышэнні імпарту над экспартам краіна будзе непазбежна залежаць ад замежных крэдытаў.

**Сяргей Гезгала**

**Мясніковіч: Эканоміка сяла — у жудасным стане**

«Эканоміка галіны знаходзіцца ў дрэнным стане. Нават, я б сказаў, у жудасным», — падкрэсліў прэм'ер-міністр 15 лютага на пасяджэнні прэзідыума Саўміна па пытаннях развіцця аграпрамысловага комплексу..

Паводле звестак Белстата, на 1 снежня 2010 года запазычанасць па крэдытах і пазыках сельскай гаспадаркі складала 18,1 трыльёна рублёў, пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць — 2,2 трлн рублёў.

**Андрэй Кажамякін, БелаПАН**

# Пуцін прыцэліўся на МАЗ

«Растэхналогіі» прапаноўваюць аб'яднаць КАМАЗ і МАЗ у адну кампанію.

Расійская дзяржаўная карпарацыя «Растэхналогіі» накіравала кіраўніцтву Беларусі ліст з прапановай аб'яднаць найбуйнейшага расійскага вытворцу грузавых аўтамабіляў — ААТ «КАМАЗ» — і Мінскі аўтамабільны завод (ААТ «МАЗ») у адну кампанію.

Згодна з прапановай, у выніку КАМАЗ будзе валодаць 100% акцый МАЗа, а ўлады Беларусі будуць мець пакет акцый у КАМАЗе, паведаміў РІА «Навосці» кіраўнік «Растэхналогій» Сяргей Чэмезаў.

Паводле яго слоў, мяркуецца правесці дадатковую эмісію акцый КАМАЗа. Затым улады Беларусі атрымаюць у акцыянерным капітале КАМАЗа пакет акцый у абмен на 100% акцый МАЗа. Чэмезаў дадаў, што наўрад ці гэта будзе блакуючы пакет. Усё будзе залежаць ад таго, у якую суму будзе ацэнены МАЗ. Расійскі бок пакуль ацэнку не праводзіў.

Чэмезаў таксама зазначыў, што акцыянеры КАМАЗа Daimler і ЕБРР не супраць такога аб'яднання.

**Сяргей Пульша, БелаПАН**

РЭХА ПЛОШЧЫ

# Журналіст пайшоў на прынцыповае супрацьстаянне з КДБ

Судовая эпапея Пачобута скончылася суткамі.

11 лютага гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута асудзілі на 15 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі 19 снежня. Прысуд вынесла суддзя Кастрычніцкага раённага суда Мінска Наталля Пратасавіцкая, якая ўвайшла ў спіс неўязных у краіны ЕС.

Судовая эпапея Пачобута цягнулася амаль два месяцы. Яго затрымалі 19 снежня, судзілі 20-га, але справу даслалі на дадатковую праверку пасля ўмяшальніцтва польскага МЗС — Андрэй з'яўляецца карэспандэнтам Gazety Wyborczaj. Суд усё ж адбыўся, і журналіста пакаралі штрафам у памеры 1 750 000 рублёў. Пракуратура палічыла такі прысуд занадта мяккім, Мінскі гарадскі суд пагадзіўся з гэтым і прызначыў перагляд справы.

Такім чынам, суд паставіў кропку ў справе Пачобута. А вось чым скончыцца ягонае супрацьстаянне з КДБ, пакуль няясна.

Справа ў тым, што 8 студзеня журналісту выпісалі афіцыйнае папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў (удзел у несанкцыянаванай акцыі 19 снежня) за подпісам начальніка Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці Івана Каржа. Пачобут сцвярджае, што пры гэтым супрацоўнікі гродзенскага КДБ пагражалі яму і некалькі разоў ударылі яго па галаве. Ён падаў скаргу на дзеянні кадэбістаў у вайсковую пракуратуру.

Вынікам настойлівасці журналіста стала серыя праверак і медычных экспертыз.



BAJ.BY

Пра ўсё гэта Пачобут напісаў у сваім блогу, прыклаўшы да сваіх словаў копіі дакументаў. Так стала вядома, што для дастаўкі яго на прафілактычную гутарку была створаная сумесная з міліцыяй група, кіраваў якой начальнік 4-га аддзела УКДБ Стэфановіч А.М. «Размаўлялі» з Пачобутам старшыя оперупаўнаважаныя УКДБ маёры Алег Паберскі і Павел Рушніцкі.

Хоць пракуратура не пабачыла парушэнняў у дзеяннях КДБ, Пачобут выказаў задавальненне хоць ад таго, што камітэтчыкам прыйшлося адказваць на непрыемныя пытанні, а таксама «засвяціць» свае імёны ў прэсе.

Што да пасадкі на суткі, то «я быў гатовы да такога павароту падзеяў, — кажа Пачобут. — Калі падзеі расцягваюцца на гады, то можна кнігу напісаць, а тут суткі — выйдзе рэпартаж».

Другі год запар Пачобут праз арышт прапускае важную сямейную падзею: летась не змог сустрэць жонку з раддома, а цяпер адзначыць дзень нараджэння сына ў турме. І ўсё адно трымаецца. «Сустрэнемся праз 13,5 сутак», — кажа ён на развітанне (1,5 сутак ён правёў пасля арышту ў аўтазаку і судзе).

**Сямён Печанко**

# Наста Лойка: У ваеннай контрразведцы было смешна

Усяго 15 хвілін доўжыўся допыт праваабаронцы Насты Лойкі ў Ваеннай контрразведцы.

**«НН»: Якім чынам Вас туды выклікалі?**

**Наста Лойка:** Некалькі разоў званілі, запрашалі без позвы. Следчы на трэцім званку запытаўся, куды яе прывезці. Я падумала: лепш схаджу, а то зноў званіць пачнуць...

Атмасфера там вельмі адрозніваецца ад КДБ [раней Лойку дапытвалі ў КДБ]. Заходзіш —



мармуровыя прыступкі, наверсе — металічныя металашукальнікі. Спускаецца мужчына вусаты такі, без формы. Паглядзеў на мяне і кажа паставому: «Чалавек прыйшоў, што вы не пасадзіце пачакаць», і на крэселкі паказаў.

**«НН»: Што найбольш цікавіла следчага пры размове?**

**НЛ:** Капітан гэты паглядзеў мой пашпарт, выказаў незадаволенасць нейкім артыкулам з «Хартыі», а потым кажа: «Я вам хачу патлумачыць нашу задачу. Мы павінны развінціць міф аб тым, што гэта ўсё арганізавалі спецслужбы». Так і сказаў. Я ледзь са стула не звалілася і запыталася: «А як жа раскрыццё злачынства?» «І гэта таксама», — адказвае. А потым зноў паўтарыў: «Задача №1 — раскруціць... №2 — раскрыць злачынства». Вось менавіта такая паслядоўнасць.

**«НН»: А што ад Вас хацелі? Дапамогі ў «развінчванні»?**

**НЛ:** Прасіў паглядзець нашы фота- і відэаматэрыялы і сказаць, каго пазнаю. Калі я адмовілася без панятых і пратакола гэта рабіць, па твары следчага прабегла непаразуменне. Ён запытаўся: «Чаму?» Я сказала: «Не хачу». Ён не ведаў, што рабіць. Званіў некуды, кансультаваўся. Потым перапісаў з пашпарта адрас і адпусціў. Падзякаваў, што прыйшла.

**Алесь Пілецкі**




# Рымашэўскі: Мне перад Лукашэнкам няма ў чым каяцца

Пра гэта палітык заявіў у часе анлайн-канферэнцыі на сайце радыё «Свабода».

Нагадаем, што экс-кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі быў арыштаваны ў ноч на 20 снежня і 12 сутак правёў у следчым ізалятары КДБ (амерыканцы), адкуль быў выпушчаны 1 студзеня. Падстава — тлумачальная запіска на імя Лукашэнкі.

Адказваючы сёння на пытанне слухача пра змест запіскі, ён сказаў наступнае:

«Я пакуль шмат пра што распавесці не магу. Я мог бы не агучваць той факт, пра які Вы пытаецеся. Меў бы, пэўна, лепшы выгляд перад тымі, хто спяшаецца зараз мяне асудзіць. Можна было сказаць проста: «Не ведаю».

Але, па-першае, не хачу нікому ні ў чым хлусіць, па-другое, не рабіў нічога, што хацеў бы схаваць ад вас.

Паўтару: за свае словы і дзеянні нясу адказнасць. Дадам толькі, што перад Лукашэнкам мне каяцца няма ў чым».

**АГ**





# Майкл Дуглас прызнаўся ў беларускіх каранях

і падтрымаў беларускую апазіцыю.

Наталля Каляда і Мікалай Халезін, кіраўнікі Свабоднага тэатра, працягваюць паднімаць хвалю салідарнасці з Беларуссю ў артыстычным асяродку Амерыкі.

У Нью-Ёрку, на арганізаванай імі вечарыне салідарнасці з Беларуссю, брытанскі драматург Том Стопард зачытаў ліст ад Майкла Дугласа.

«Я — амерыканец, бо сям'я майго бацькі прыехала з Беларусі шукаць новае жыццё ў краіну Свабоды. Мы абавязаны выкарыстаць гэтую свабоду для таго, каб падтрымаць тых, каму адмоўлена ў такіх правах, як права на свабоду выбару. Як акцёр, я рады падтрымаць Беларускі Свабодны тэатр, флагман мірнага пратэсту за справядлівасць і дэмакратыю ў краіне маіх продкаў. Майкл Дуглас».

Майкл Дуглас — адзін з самых папулярных галівудскіх акцёраў.

**СГ**

# Наш адказ баранесе Эштан

Студэнты Акадэміі кіравання падпісалі зварот у Еўрасаюз.

У звароце адзначаецца, што студэнты асуджаюць санкцыі супраць лукашэнкаўцаў. «Імідж Рэспублікі Беларусь фармуецца аднабакова: са словаў асобаў, якіх у нашай краіне не ведаюць, якім не давяраюць, якіх не паважаюць», — гаворыцца ў заяве.

Як сказаў тэлеканалу «Белсат» студэнт 4-га курса Акадэміі Андрэй В., ідэолагі паведамілі студэнтам, што ўсе астатнія ўніверсітэты таксама далучацца да заявы.

**СГ**

# Сікорскі расказаў, як Лукашэнка дражніў міністра Вэстэрвэле

**Супраць лесбіянак я нічога не маю, але геяў я паслаў бы ў калгасы — прыкладна такое заявіў Лукашэнка.**

У часе польскай унутрыпалітычнай дыскусіі на гейскую тэматыку ўсплыў адзін смешны факцік. Каментуючы выказванні свайго аднапартыйца на тэмы гомасэксуалістаў, міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі параўнаў іх з лукашэнкаўскімі. Маўляў, зроблены ў аналагічным тоне.

Гаворка была, як трэба разумець, пра грубаватыя жарты Лукашэнкі ў часе сустрэчы з міністрамі замежных справаў Польшчы і Нямеччыны, што адбылася перад выбарамі. Як вядома, нямецкі міністр і лідар лібералаў Гіда Вестэрвеле — адкрыты гей. Ён жыве, так бы мовіць, сям'ёй з сябром.

Польскі часопіс «Упрост» распытаўся ў аднаго з дыпламатаў, у чым заключаўся жарт. Аказалася, у ходзе сустрэчы міністраў з Лукашэнкам была ўзнятая тэма меншасцяў. У прыватнасці, балючая тэма польскай меншасці. Лукашэнка зрэагаваў на гэтую заяву доўгім маналогам. Урэшце з нацыянальных гаворку перавёў на сэксуальныя меншасці. Сказаў, што не разумее, як мужчына можа жыць з мужчынам. Вестэрвеле сумеўся, а Лукашэнка пайшоў яшчэ далей. Сказаў, маўляў, супраць лесбіянак нічога не мае, але геяў ён бы паслаў у калгасы працаваць.

Міністры Сікорскі і Вестэрвеле прыязджалі ўгаворваць Лукашэнку зрабіць бачнасць свабодных выбараў. Аднак гэтага не здарылася, і пасля 19 снежня Польшча і Нямеччына сталі галоўнымі прыхільнікамі цвёрдай лініі ў адносінах з Мінскам.

**Сяргей Гезгала**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Алег Алкаеў публікуе кампрамат на Шэймана

**У сваім блогу ён змясціў, як сцвярджае, раздрукоўкі тэлефонных размоваў Шэймана з бізнэсоўцам Шыгалавым.**

Былы начальнік мінскага СІЗА, палітэмігрант Алег Алкаеў у сярэдзіне лютага Алкаеў звяртаўся да галоўнага рэдактара «Советской Белоруссіі» Паўла Якубовіча і старшыні КДБ Вадзіма Зайцава з просьбай азнаёміцца з матэрыялам і надрукаваць яго. Адказу Алкаеў так і не дачакаўся, таму працягнуў публікацыю ў дзённіку.

У гэтай частцы змешчаны рапарт былога міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава да Аляксандра Лукашэнкі. У ім Навумаў паведамляе пра грамадзянскую жонку былога старшыні Рады бяспекі Шэймана Саўчанку, якая крымінальным шляхам купіла сабе дыплом аб вышэйшай адукацыі, а таксама набыла некалькі кватэр і катэджаў у Мінску і Мінскім раёне.

Прыводзіцца расшыфроўка тэлефонных размоваў, якія, калі верыць публікацыі, вялі Шэйман з дырэктарам рынку «Ждановічы» Яўгенам Шыгалавым.

Ці праўдзівыя гэтыя звесткі, няма пэўнасці. Магчыма, Алкаеў іх мог атрымаць ад беглага капітана Дудкіна, колішняга памочніка Уладзіміра Навумава. У аўторак невядомыя хакеры выцерлі змест блога Алкаева, але ён аднавіў запісы

**Зміцер Панкавец**

# Лукашэнка ўзнагародзіў міліцыю за 19 снежня

**Падзякі прэзідэнта ўручыў Радзькоў.**

Пяць афіцэраў мінскай міліцыі ўзнагароджаны Лістамі падзякі за подпісам кіраўніка дзяржавы. 8 лютага іх уручыў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў.

За «гарантаванне грамадскага парадку ў сталіцы» падзячныя лісты атрымалі: намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Ігар Яўсееў, камандзір палка міліцыі спецыяльнага прызначэння (ПМСП) ГУУС Аляксандр Лукомскі, начальнік Мінскага дзяржупраўлення Дэпартамента аховы МУС Віктар Скурат, намеснік начальніка аддзела камплектавання ўпраўлення ідэалагічнай работы і кадравага забеспячэння ГУУС Сяргей Іваноў і камандзір роты баявога і тэхнічнага забеспячэння ПМСП Раман Кадзін.

Варта адзначыць, што двое з узнагароджаных — Ігар Яўсееў і Аляксандр Лукомскі — уключаныя ў спіс 157 беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрапейскага Саюза.

Што да Яўсеева, то з ім звязаны яшчэ адзін скандал. У інтэрнэце былі апублікаваны фоты, як ён дае выспятка фотажурналісту Уладзю Грыдзіну. Яму не спадабалася, што рэпарцёр здымаў кадры разгону пікета салідарнасці на плошчы Незалежнасці.

**БелаПАН**



**Узнагароджаныя за грамадскі парадак.**



**Намеснік начальніка ГУУС (другі злева на верхнім фота) дае выспятка журналісту Уладзю Грыдзіну.**

## КДБ трасе адваката Міхалевіча

У Алега Агеева запатрабавалі ўсе дакументы, што датычаць яго прафесійнай дзейнасці.

10 лютага ў юрыдычную кансультацыю Ленінскага раёна Мінска, што на вуліцы Ульянаўскай, 4, завітаў супрацоўнік КДБ. Яго цікавіў адвакат кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча Алег Агееў. Кадэбіст меў пры сабе ліст на імя загадчыка кансультацыі з просьбай накіраваць у Камітэт дакументы аб дзейнасці адваката Агеева, у тым ліку асабістыя рахункі. Супрацоўнікі кансультацыі выдаць дакументы адмовіліся, бо для гэтага не было прававых падстаў.

Алег Агееў абараняе Алеся Міхалевіча з моманту яго затрымання. Гэты аўтарытэтны адвакат быў абраны сябрам Прэзідыума Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.

Як сказаў «Нашай Ніве» адзін з адвакатаў на ўмовах ананімнасці, гэта беспрэцэдэнтны факт ціску.

Як вядома, Мінская гарадская калегія адмовілася накласці санкцыі на адвакатаў, якія бароняць арыштаваных па справе аб так званых «беспарадках 19 снежня». Свет разглядае гэтых вязняў як вязняў палітычных.

**Сямён Печанко**

## Тозік: Ніводны супрацоўнік апарата Саўміна не ведае замежнай мовы

Намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік 3 лютага на пасяджэнні Міністэрства адукацыі заявіў, што ніводны з 332 супрацоўнікаў апарата Савета міністраў краіны не валодае свабодна замежнымі мовамі. «І гэта ў краіне, якая знаходзіцца на еўрапейскім скрыжаванні!» — падкрэсліў віцэ-прэм'ер.

«Як можна сцвярджаць, што мы актыўна вядзём працу з інвестарамі, што мы маем з імі штодзённыя адносіны?» — задаўся пытаннем Анатоль Тозік, піша «Звязда».

Паводле афіцыйных біяграфіяў, замежнай мовай валодае толькі першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, які размаўляе па-англійску. У біяграфіі ж Анатоля Тозіка веданне замежных моў не ўказана, нягледзячы на тое, што ён тры гады быў паслом у Кітаі, дадае «Комсомольская правда в Беларуси».

**МБ**

# Смяротнік з Дамадзедава помсціў за сястру



**Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў асабіста правяраў сістэму бяспекі на Кіеўскім вакзале Масквы і ў аэрапорце Унукава.**

**Ён сышоў у баевікі пасля зачысткі ў ягоным ауле.**

Смяротніка Магамеда Яўлоева, які ўчыніў 24 студзеня тэракт у маскоўскім аэрапорце «Дамадзедава», праводзілі ў Маскву сябар, брат і сястра — удава забітага спецслужбамі баевіка. Магамед Яўлоеў сышоў у партызаны пасля зачысткі, якую ФСБ правяла ў яго роднай вёсцы Алі-Юрт.

Як лічаць эксперты, прычыны сыходу Яўлоева ў лес да баевікоў і ператварэнне яго ў смяротніка варта шукаць у зачыстцы, праведзенай спецслужбамі ў сяле Алі-Юрт, у якой пацярпелі яго родныя. Апошняй кропляй магло стаць забойства федэраламі мужа сястры ў жніўні мінулага года.

У арыштаваных у мінулы аўторак 16-гадовага Ахмеда Яўлоева, 22-гадовай Фацімы Яўлоевай і 22-гадовага жыхара вёскі Алі-Юрт Назранаўскага раёна Інгушэціі Умара Аушава падчас следчых дзеянняў на руках знайшлі сляды гексагену, які ўваходзіць у склад пластыту, з якога складаўся пояс смяротніка. Усіх траіх Магаскі раённы суд арыштаваў на два месяцы па падазрэнні ў забойстве (артыкул 105 КК РФ), тэрарызме (арт. 205), незаконным абароце зброі і боепрыпасаў (арт. 222) і незаконным вырабе зброі (арт. 223).

За пяць дзён да тэракту 20-гадовы Магамед Яўлоеў, які сышоў з хаты і далучыўся да баевікоў летам мінулага года, вярнуўся ў Алі-Юрт, дзе атрымаў ад сваякоў выбуховую прыладу.

У родным сяле Магамед прабыў усяго адзін дзень, там ён сустракаўся толькі з сястрой, братам і Умарам Аушавым.

Па словах сястры смяротніка Фацімы, менавіта Аушаў адвёз Магамеда на сваіх «Жыгулях» на аўтавакзал, адкуль той паехаў у Маскву.

Як высветліла прэса, у ліпені 2007 года прозвішчы Яўлоевых і Ганіжавых фігуравалі ў спісе пацярпелых ад зачысткі спецслужбаў. Спецаперацыя была праведзеная федэраламі пасля абстрэлу адміністрацыі прэзідэнта Інгушэціі і будынка ФСБ у Магасе. Як тады высветлілі, страляніна вялася з боку вёскі Алі-Юрт. Паводле дадзеных праваабаронцаў, некалькі чалавек, у тым ліку падлеткі, жанчыны і мула былі моцна збітыя, некалькі дзясяткаў чалавек затрымалі.

Жыхары Алі-Юрта звярнуліся ў суд, але вінаватых у збіцці не знайшлі. Цяпер іх позву разглядае Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу.

**КаМ**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Перу

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта Кірыла Краўцоў — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта Аўгіня Манцэвіч — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта Верасень — аператар, гітарыст.



Рэстаран на колах.

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2—6 за 2011.**

## Уарас — Ліма

Мы паехалі ва Уарас — гарадок у перуанскіх Андах. Пра гэтае месца мы не ведалі нічога, але ратавацца ад бруднага ўзбярэжжа дзесьці трэ было, і мы накіраваліся ўглыб краіны.

Тое, што мы едзем у правільным накірунку, стала ясна, калі нас падабраў старэнькі грузавік і кіроўца пасадзіў чатырох белых «грынгаў» (нас так называюць ужо 5 месяцаў, пачынаючы з Мексікі) у цалкам забіты памідорамі, пасылкамі, курамі і мясцовымі жыхарамі драўляны кузаў.

Пейзаж вакол паціху стаў мяняцца, а разам з ім — і людзі, якія сустракаліся нам на шляху. Жанчыны апранулі народныя строі і надзелі капелюшы. Другая машына, якая нас падабрала, была яшчэ больш нагружанай. І мы, стараючыся не padушыць памідоры і юку ў мяшках, паехалі ва Уарас.

У дарозе нас застала ноч, а з ёю і дождж. Кузаў накрылі брызентам. Стала цёмна і страшна. Накрытыя брызентам, мы не маглі бачыць, дзе едзе машына. А яе, старэнькую, хістала ва ўсе бакі на пясчаных горных дарогах. Тут упершыню хлопцы даведаліся, як спраўляць малую патрэбу на хаду, з кузава грузавіка. А мы з Алісаю — у бутэльку ад «Інка-колы».

З горам-бядою мы заехалі ноччу ў халодны Уарас. А раніцай параскрывалі раты ад хараства вакол нас. Горад рыхтаваўся да Раства. На рынку прадавалі мох для батлейкі.

Зайшлі паснедаць мясцовай рыбкай — сэбічэ. Верасень не супакойваўся: «А можа, у іх тут ёсць матэ з кокі, давайце спытаем». Перу — першая краіна на нашым шляху, дзе кока легальная. Але мы толькі пасмейваліся і працягвалі есці сэбічэ. «Дыскульпэ, т'енэ матэ дэ кока?» (Прабачце, у вас ёсць матэ з кокі?) — запытаў Верасень у афіцыянта. «Матэ дэ кока? — удакладніў той. — Ёсць». «Уно, пор фавор». (Адзін, калі ласка.) «Куатро!» (Чатыры!) — хорам закрычалі мы. Аднак, калі нам прынеслі гэтае матэ, нас спасцігла расчараванне.

З Уараса мы паехалі ў сталіцу Перу Ліму. Чым далей ад гор, тым горшала Перу зноў.

## Як толькі скончваюцца грошы, пачынаюцца цуды

З Лімы мы накіраваліся ў Куска. Адтуль рукою падаць да знакамітага возера Тытыкака на мяжы з Балівіяй. У Куска вядуць, прынамсі, дзве дарогі. Адна з іх ідзе праз пустэльню Наска, куды і едуць усе турысты. Другая ж ідзе праз малавядомы гарадок Аякуча. Нам, вядома, па апошняй. Да таго ж, казалі, што на дарозе з Наска цяпер, у турыстычны сезон, арудуюць злачынцы, якія рабуюць аўтобусы з турыстамі. І хоць нас таксама папярэджвалі, што асфальт па дарозе праз Аякуча хутка скончыцца, мы рушылі менавіта туды.

Першым выпрабаваннем на нашым шляху стаў грузавік. У кузаве, поўным піроЖных і тартоў, нашы рукі так і цягнуліся да слодычаў. Неяк выцерпелі ўсю паездку. І калі кіроўца адчыніў нам дзверы, першае, што мы спыталі, ці можна нам піроЖкаў. Так мы атрымалі кожны па смачнючым заварным піроЖным.

Мы апынуліся ў гарадку, дзе ніхто не хацеў нас падбіраць. Пераначаваўшы на станцыі ўзважвання грузавікоў, раніцай мы зноў рушылі ў шлях. Было 24 снежня. Раство. Усе тусаваліся па сем'ях альбо закупляліся на рынках, машынаў на дарозе амаль не было. А ў нас скончыліся апошнія грошы. І нам было не да свята. Але, як паказвае наша практыка, як толькі скончваюцца грошы, пачынаюцца цуды.

Нам спыніўся чарговы грузавік з драўляным кузавам. Кіроўца сказаў, што давязе нас да Аякуча і пасадзіў небаракаў у кузаў. А там, на наша шчасце, мы знайшлі тры здаравенныя мяшкі з мяшкамі. І палеглі спаць.

Нядоўга нам давялося паспаць. Грузавік спыніўся. І яго пачалі загружаць: цэглай, нейкімі каробкамі, яйкамі, персікамі. Весела, папіваючы піва, хлопцы загрузілі наш грузавік так, што для нас там амаль не засталося месца. Так мы рушылі далей, падбадзёрваючы сябе песнямі і паяданнем персікаў і яек.

## Пахаванне Дэльфіны

Ад горнай дарогі мяне пачало ўкачваць, і на чарговым прыпынку я папрасілася ў кабіну. Там амаль адразу ж заснула. Праз нейкі час машына спынілася. Кіроўца будзіць мяне, торгаючы за плячо. «Бамоса комэр!» (Хадзем есці!) — «Но кьеро, (Не хачу.) — яшчэ сонная адказваю я. «Сіга, эста граціс!» (Вылазь, гэта задарма.)

Мне было ўсё яшчэ мутарна, і я вырашыла праветрыцца. Мы пайшлі за кіроўцам у нейкі дом. Каменныя сцены, каменная халаднючая падлога. У вуглах на аўчынках сядзяць жанчыны. Адзінае акно заклеенае цэлафанам, ад гэтага ў памяшканні цёмна і амаль нічога не відаць. Нас таксама садзяць на авечыя посцілкі і з іншага пакоя выносяць халодную ежу ў пластыкавым посудзе.

І тут я заўважаю, што ў пакоі стаіць труна. Каля яе гараць свечкі. А жанчыны побач аплакваюць нябожчыка. Мне стала вельмі няёмка і захацелася адсюль выйсці.

На вуліцы жанчыны разбіралі мяса толькі што забітага быка. Мужчыны выгружалі з грузавіка цэглу.

Нас пачалі распытваць, хто мы, адкуль мы, што робім, дзе начуем. Мы расказалі, што едзем аўтаспынам, начуем у хатах. За начлег і ежу — спяваем. «Дык заставайцеся сёння ў нас!» — сказаў адзін з мясцовых. «Будзе шмат песень, віна і ежы, а заўтра ўсе разам паедзем на грузавіку ў Аякуча».

Толькі гэтага мы і чакалі. Тут жа згадзіліся, выцягнулі з кузава заплечнікі з інструментамі, развіталіся з кіроўцам і ўліліся ў жыццё гэтай маленькай вёсачкі.

Род Такуры племені Чунча хаваў маму, бабулю і прабабулю Дэльфіну. Час ад часу да труны падыходзілі людзі, сумна глядзелі на ссохлы пажаўцелы твар жанчыны, а потым адыходзілі і спявалі песні разам з намі. Нам адразу ж выдзелілі некалькі скур авечак і альпакаў, далі выпіць віна і сунулі па дзве жмені лісця кокі.

Уся сям'я размаўляе паміж сабой на кечуа. І мы вывучылі некалькі словаў. Напрыклад, «чорны» на кечуа — «яна». А «белы» — «юра». «Мужчына» — «харі», «жанчына» — «уармі» альбо «пашня». А вось словаў «дзякуй» і «калі ласка» на кечуа ўвогуле не існуе. Яны папросту непатрэбныя. Хочаш штосьці папрасіць — прасі. Хочаш узяць — бяры.

**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.

**Перу**

краіна на захадзе Паўднёвай Амерыкі. Ляжыць на землях колішняй дзяржавы інкаў.

Складаецца з трох адрозных зонаў. На захадзе ляжыць прахалоднае ціхаакіянскае ўзбярэжжа — на клімат уплываюць халодныя воды антарктычнага цячэння Гумбальта. Над ім паўстаюць высокія і халодныя Анды. А за імі, на паўночным усходзе, — велізарныя малазаселеныя прасторы джунгляў Амазоніі.

Тэрыторыя ў 6 разоў большая, чым Беларусі. Насельніцтва складае каля 30 млн чалавек (у 3 разы больш, чым у Беларусі).

У краіне здабываюць медзь, золата, цынк, нафту. У сельскай гаспадарцы вырошчваюць спаржу, каву, какаву, коку, садавіну. Краіна таксама спецыялізуецца на лоўлі рыбы.

У палітычным сэнсе гэта адна з найменш стабільных дзяржаваў Амерыкі.

Перу не мела ўдачы ў войнах. У XIX стагоддзі тэрыторыі, багатыя салетрай, захапіла Чылі. У XX ст. краіна не раз уступала ў крывавыя сутычкі з Эквадорам. Многія горныя раёны застаюцца зонай левай партызанскай вайны.

За апошнія 50 гадоў яна прайшла і праз кіраванне марксістаў, і праз правыя дыктатуры. Нарэшце, прэзідэнт-ліберал Алехандра Таледа ў 2001—2006 гадах правёў рынкавыя эканамічныя рэформы, у выніку чаго гаспадарка стабілізавалася.

Мясцовыя індзейскія мовы кечуа і аймара імкліва саступаюць ролю іспанскай. Калі 100 гадоў таму іспанскую ведала толькі трэціна насельніцтва, паводле перапісу 2001 года, на ёй размаўляла ўжо 80% перуанцаў, а індзейскія мовы ператвараюцца ў двухмоўную трасянку.





У Перу кока — легальная.



Юка ў Андах.



Лам у гарах разводзяць на роўных з авечкамі і быдлам.



Нас з Вераснем папрасілі стаць хрышчонымі бацькамі пяцімесячнага Яна Карласа.



Маме Яна Карласа 16 гадоў.



Нябожчыкаў тут не закопваюць у камяністую зямлю. Магілу надбудоўваюць над зямлёй.



У апошні шлях.



Спевы на хаўтурах.



Дзеці гор.



Аўтаспын у Перу.



Перад Нараджэннем Хрыстовым прадаюць мох для батлейкі.

Амаль да паўночы мы спявалі песні. Некаторыя пазасыналі на скурах. Роўна а 12-й тыя, хто яшчэ не спалі, павіншавалі адно аднаго з Раством. І мы заснулі, накрытыя аўчынкамі і з прысмакам кокі за шчакой.

**Кока легальная ў Перу і Балівіі**

Як і ў Перу, у Балівіі дазволена вырошчваць, прадаваць і жаваць коку за абедзве шчакі. Праўда, усе жуюць яе чамусьці толькі на адну. Напэўна, балівійскія індзейцы застануцца ў маёй памяці менавіта такімі — з выпуклай ад кокі шчакой і зеленаватымі губамі. Два гады таму Эва Маралес пажаваў ліст кокі перад Камісіяй ААН і сказаў: «Гэты лісточак сфармаваў мяне як асобу, як палітыка, а цяпер вось і як прэзідэнта. Таму я не магу здрадзіць яму, спаслаўшыся на патрабаванні амерыканцаў пра знішчэнне пасеваў, не магу здрадзіць мільёнам нашых сялянаў, для якіх ліст кокі не мае нічога супольнага з наркотыкам».

**Маралес**

блізкі саюзнік Уга Чавеса, кіраўніка Венесуэлы.

Назаўтра пад дажджом мы развіталіся з бабуляй Дэльфінай і пад песні на кечуа пра Хрыста пахавалі яе. Тут мы зразумелі, для чаго ўчора грузавік прывёз цэглу. Тут нябожчыкаў не закапваюць, а надбудоўваюць магілу над зямлёю.

Потым усе разам вялікаю сям'ёю на тым жа грузавіку, у якім патрапілі ў вёсачку, з тым жа кіроўцам, які апынуўся ўнукам Дэльфіны, паехалі ў Аякуча.

## Аякуча

Раніца пачалася для нас некалькігадзінным шпацырам з заплечнікамі ў надзеі пакінуць Аякуча і дабрацца да Куска. Выхад з горада зацягваўся з-за таго, што мы пастаянна спыняліся, каб паслухаць, як нехта іграе на арфе, альбо самім сыграць цікаўным індзейцам на варгане, гітары і скрыпцы ды спець пару беларускіх песняў.

Чарговы раз нас спыніла спраўная жанчына. Яна спрытна наліла з вялікай каструлі чарпаком чычы і прапанавала пакаштаваць. Навучаныя, што адмаўляць у такіх выпадках нельга, мы выпілі чароўнага напою з кукурузы. «Куды і адкуль вы ідзяце?» — пачалі засыпаць нас пытаннямі мясцовыя.

«Зайдзіце да нас на троху», — яны наперабой сталі запрашаць нас на калядную фіесту да сябе ў двор. «Толькі на паўгадзінкі», — вагаючыся, пагадзіліся мы і ўзялі з сабою свежаналітую чычу.

У двары нас адразу ж зацягнулі ў дзею містэрыі. Мы танчылі разам з дзіўнымі героямі ў масках, кланяліся малечы-Хрысту, пілі мясцовы алкаголь. Паўгадзінкі незаўважна пераўтварыліся ў гадзіну. «Застаньцеся яшчэ на трошку, — папрасілі нас. — Хутка будзе абед. А потым паедзеце ў Куска». Мы паслухалі.

## Хрэсьбіны Яна Карласа

Адбывалася штосьці неймавернае. Індзейскія танцы і песні перамяжоўваліся з беларускімі. А мы паступова абрасталі сябрамі ў невядомым нам дагэтуль горадзе Аякуча. Затым быў абед. Расцягнуўся ён на некалькі гадзінаў і складаўся з пяці страваў. Наеўшыся да адвалу, усе працягвалі танчыць, спяваць і напівацца півам да самай ночы. Вядома, у гэты дзень мы ўжо нікуды не паехалі.

Аднак цуды гэтым вечарам не скончыліся. У адной з паўзаў паміж песнямі-пляскамі да нас з Вераснем падышлі бацькі пяцімесячнага Яна Карласа і папрасілі стаць яго хроснымі бацькамі. Я паглядзела ў вочы малому і не змагла адмовіць яго бацькам. Кветкамі, змочанымі ў свянцонай вадзе, мы намалявалі немаўляці крыж на лбе. Кропелька вады сцякла па носе да кутка вуснаў Яна Карласа, і ён усміхнуўся. Так у нас з'явіўся хрэснік у Перу.

Я вельмі радая, што мы выбралі менавіта гэтую дарогу да Куска. Шлях быў вельмі доўгім — па крутым пясчаным серпанціне мы рухаліся не хутчэй за 20 кіламетраў у гадзіну. Але тое, што мы пабачылі, людзі, якіх сустрэлі, рэабілітавалі Перу ў маіх вачах. Напэўна, цяпер горы Перу — адно з маіх улюбёных месцаў у свеце.

**Працяг будзе.**

Сачы за падарожжам

# Праляскоўскі і Радзькоў на адкрыцці кніжнага кірмашу пілі гарэлку

**Ганаровымі гасцямі наступных выставак будуць Венесуэла і Іран.**

У Мінску прайшоў 18 міжнародны кніжны кірмаш. У яго працы бралі ўдзел прадстаўнікі з 23 краін.

Адкрывалі выставу першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі і пасол Германіі ў Беларусі Крыстаф Вайль. Гэта краіна сёлета была ганаровым госцем. Радзькоў заклікаў чытаць творы Багдановіча, Купалы, Караткевіча. І ўзгадаў колішнюю размову з Аляксандрам Лукашэнкам. Калі мянялася праграма па беларускай літаратуры, скарачалася, Лукашэнка спытаў у міністра адукацыі, навошта той гэта робіць. Маўляў, трэба, каб у школах чыталі класіку. Як апраўдваўся Радзькоў, невядома. Ён не дагаварыў. Але, мяркуючы па выніках тых зменаў, знайшоўся, чым аргументаваць сваю пазіцыю.

У «ганаровай варце» за Праляскоўскім і Радзьковым сталі неўязныя ў ЕС і ЗША чыноўнікі: намеснікі міністра інфармацыі Лілія Ананіч і Ігар Лапцёнак, намеснік старшыні Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

Генерал Чаргінец выступіў каратка. Калі заўважыў у натоўпе журналістаў мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, ён паспяшаўся прадставіць яго і назваў галавой каталіцкай царквы Філарэтам.

Пры аглядзе экспазіцый чыноўнікі зайшлі на стэнд выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», дзе, акрамя кніг, была і гарэлка з агуркамі. На гасцінным пададворку Радзькоў з Праляскоўскім узнялі па кілішку.

Прысутнічалі на выставе і кнігі Анатоля Рубінава, неўміручыя вершы з якіх «Наша Ніва» публікавала на мінулым тыдні.

Сёлетні кірмаш быў самым вялікім (каля 600 экспанентаў з 23 краін), але па кніжнай насычанасці не пераўзыходзіў папярэднія. Расійскія стэнды не былі завалены кнігамі, дый украінскія таксама. Затое парадавалі немцы.

Яны прэзентавалі дзве кнігі ў перакладзе на беларускую мову. Гэта «Галасы Панямоння — гісторыя, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару» Увэ Рады і «Ты не памрэш» Катрын Шміт. Раман «Ты не памрэш» паклаў пачатак цэлай серыі, у якой па-беларуску будуць выходзіць кнігі аўтараў, што адзначаліся Нямецкай кніжнай прэміяй.

На стэндзе Польшчы аўтографы на польскамоўным выданні свайго рамана «Рыбін горад» раздавала Наталка Бабіна. Для беларускай кнігі гэта рэдкасць, калі яна перакладаецца за мяжой для камерцыйнага выдавецтва. А ў бліжэйшы час перавыданне рамана з серыі «Кнігарня «Наша Ніва» выйдзе і ў Беларусі.

Сёлета на кірмашы паўстаў аб'яднаны стэнд незалежных выдаўцоў. «Логвінаў», «Галіяфы», «Лімарыус», Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», рэдакцыі часопісаў ARCHE, «Партызан» разам прадставілі свае кнігі. Адны крытыкавалі іх за ўдзел у выставе. Маўляў, няма чаго выстаўляцца, калі паэт Някляеў і літаратуразнаўца Фядута сядзяць у турме. Іншыя былі не згодныя: любую магчымасць для прасоўвання беларускамоўнай кніжкі трэба выкарыстоўваць.

Убачыўшы беларускую кнігу, шараговы наведнік прыпыняўся. А што да салідарнасці, то на прэзентацыях на аб'яднаным стэндзе пісьменнікі называлі імёны арыштаваных. А для Арлова, Акудовіча, Бахарэвіча ўдзел у прэзентацыі быў адзінкавай магчымасцю выступіць на мерапрыемстве.

На наступным кірмашы ў Мінску ганаровым госцем будзе Венесуэла. Сёлета стэнд гэтай краіны запомніўся дзяўчатамі ў яркіх нацыянальных строях, што танчылі і спявалі. Еўрапейскі парад ганаровых гасцей заканчваецца. У 2013 эстафету ад Венесуэлы прыме Іран.

**Сяргей Макарэвіч, фота Сяргея Гудзіліна**



**Разам з Радзьковым (у цэнтры) і Праляскоўскім стужку пераразаў і пасол Германіі Крыстаф Вайль (справа).**

**Фотаальбом «Павел Бородин и дети»**

Дзяржаўны сакратар саюзнай дзяржавы гуляе з дзецьмі ў футбол. Дзяржаўны сакратар саюзнай дзяржавы адпачывае з дзецьмі на канапе... Эксклюзіўны альбом, праўда, не прадаваўся. Яго выставілі на кірмашы адмыслова для азнаямлення з працоўнымі буднямі Паўла Барадзіна.




**«Літаратура і мастацтва» прэзентавала неўміручыя кнігі Анатоля Рубінава.**



**Ля стэндаў беларускіх выдавецтваў было нямала наведвальнікаў.**

# Карцінкі з выстаўкі

**Наталка Бабіна.**

Правільна зрабілі тыя выдаўцы, хто на выставу пайшоў, скарыстаўся магчымасцю данесці сваю пазіцыю да людзей.

Паводле маіх назіранняў, найбольш ажыўленымі былі аб'яднаныя стэнды «АСТ-Харвест» і «Прыватныя выдаўцы». Каля іх заўсёды былі людзі, у той час як каля іншых часцяком нікога не было...

Прыемна было, што апошні нумар «Новага часу» на выставе наведнікі атрымлівалі бясплатна.

Мне быў страшна цікавы стэнд «Тэхналогіі» — і, ясная рэч, не толькі мне.

Для чаго пісаць і выдаваць, калі ты не можаш данесці гэта да людзей?

Збіраючыся на выставу, я раздрукавала плакат са згадкай пра палітвязняў. Пан Гузоўскі, кіраўнік польскага выдавецтва, якое апублікавала мой раман у польскім перакладзе, які і запрасіў мяне на аўтограф-сесію, адразу ж павесіў яго на бачнае месца.

І вось хачу расказаць вам адзін эпізод. Сур'ёзны і нейкі асаблівa засяроджаны малады чалавек прачытаў плакат, папрасіў аўтограф і падарыў узамен паштоўку: асілак чытае кнігу з назвай «Канстытуцыя РБ», а побач ляжыць абезгалоўлены дракон. На адвароце надпіс: «Найлепшыя пажаданні ад Дзмітрыя Уса». Я выставіла гэтую паштоўку на стэнд. З аднаго боку, мне шкада, што яе нехта знёс, мне б хацелася захаваць яе для сябе, а з другога — я гэтаму радая...

Я радая таму, што кнігі «Прыватных выдаўцоў» проста разляталіся.

Я страшна кранутая словамі, якія давалося чуць: «Як добра пагаварыць па-беларуску... На працы няма з кім...»

Кранутая тымі, хто прыехаў з Магілёва, Глыбокага, Брэста, каб падпісаць кнігу.

Уражаная тым, як ахвотна людзі адклікаліся на заклік Аксаны Спрынчан набыць «найлепшыя беларускія кнігі і часопісы»...

Карацей, час на выставе правяла з вялікай карысцю.

...Калі плынь наведнікаў паменшала, пан Гузоўскі прапанаваў «шарлотку» — выдатны польскі кактэйль: яблычны сок з кропляй зуброўкі.

— Перадапошняя кніжная выстава, у якой я браў удзел, адбывалася ў Каіры, — расказваў ён за кактэйлем. — Прыляцеў, прывёз кніжкі. Гэтую выставу заўсёды адкрываў Мубарак — яму важна было, каб яго лічылі культурным. 28 снежня павінен быў таксама выставу адкрываць. Не змог, нябога. Быў заняты...

Кнігі з Каіра прыехалі ў Мінск. Можа, паспелі ў Каіры падхапіць той самы мясцовы вірус? Можа, і гэтая інфекцыя перадаецца?

# 3D-кіно — шкодная для здароўя тэхналогія

Піша кандыдат фізіка-матэматычных навук **Ігар Сташкевіч**.

Магічныя літары «3D» усё часцей з'яўляюцца на афішах. І заўсёды падкрэсліваецца, што гэта тэхналогія будучыні. Але тыя, хто глядзеў «Аватар» у 3D, часцяком адчувалі нейкі дыскамфорт і нават галаўны боль. Некаторыя гледачы падчас сеанса перыядычна здымалі спецыяльныя акуляры. Чаму так адбываецца?

Для адказу на гэтае пытанне паглядзім, як чалавек успрымае аб'ёмны свет навакол сябе. Па-першае, карціна ствараецца не ў вачах (гэта толькі датчыкі), а ў галаве (аналаг цэнтральнага працэсара ў камп'ютары). Для апрацоўкі сігналаў з датчыкаў цэнтральнаму працэсару неабходны час. Спачатку дзве карцінкі ад вачэй павінныя зліцца ў адну. Гэты працэс называецца фузіяй і патрабуе не менш за 0,1 секунды.

Фузія вымагае пэўных затратаў магутнасці «цэнтральнага працэсара» і можа не адбывацца пры яго занадта павольнай працы. Напрыклад, калі чалавек знаходзіцца пад уздзеяннем алкаголю або моцна стомлены — тады ўваччу дваіцца. Далей ідзе фармаванне стэрэакарціны. Гэты працэс яшчэ больш працяглы — ад 0,1 да 3 секундаў.

Цяпер разгледзім, якую інфармацыю выкарыстоўвае «цэнтральны працэсар» для фармавання аб'ёмнай карціны. Аказваецца, на 80% гэта ўзаемнае перамяшчэнне аб'ектаў адзін адносна другога і на 20% — бінакулярны стэрэаэфект. З узаемным перамяшчэннем усё зразумела — калі мы рухаемся, то бліжэйшыя да нас аб'екты рухаюцца ў нашай карціне свету хутчэй, а далёкія — павольней.

Бінакулярны стэрэаэфект узнікае праз тое, што карцінкі, якія даюць левае і правае вока, розняцца паміж сабой. Цэнтральны працэсар па гэтых адрозненнях стварае аб'ёмную карціну свету. Трэба заўважыць, што для аддаленых аб'ектаў розніца карцін левага і правага вока нейстотная, таму бінакулярны стэрэаэфект на адлегласцях, большых за 10 метраў, практычна адсутнічае.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Яшчэ адна асаблівасць. Калі чалавек разглядае нейкі аб'ект, то ён паварочвае вочы так, каб іх аптычныя восі перасекліся на аб'екце, і факусуе вочы на ім, каб аб'ект быў рэзка бачны. Гэтыя два механізмы — звядзенне вачэй і факусаване — звязаныя ў цэнтральным працэсары. Калі мы зводзім вочы на нейкі аб'ект, то і факусаванне аўтаматычна ўсталёўваецца на ім.

А ў 3D-кінатэатры звядзенне вачэй і факусаванне разрываюцца. Факусавацца позірк мусіць на плоскасці экрана, а звядзенне залежыць ад таго, які аб'ект мы разглядаем — перад экранам ці за ім. Для кампенсацыі разрыву патрабуецца затрачваць вялікую магутнасць цэнтральнага працэсара, а гэта моцна ўплывае на камфортнасць прагляду фільма. Адчуванні, вядома, у кожнага будуць свае — ад лёгкага дыскамфорту да галаўнога болю, але эфект гэты не дасць магчымасці 3D-кіно замяніць звычайнае. Тым больш што аб'ёмная карціна пры ўзаемным перамяшчэнні аб'ектаў у звычайным кіно таксама складаецца і не дае пабочных эфектаў. Розніца толькі ў бінакулярным стэрэаэфекце (а гэта ўсяго 20%). А гледачам 3D-кіно магу даць рэкамендацыю садзіцца на апошні шэраг. Там дыскамфорт адчуваецца найменш, бо глыбіня рэзкасці зроку павялічваецца пры аддаленні ад экрана.

Ад 3D-тэлебачання дыскамфорт будзе значна большы, чым у кіно, бо экран знаходзіцца яшчэ бліжэй да гледача.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У 20-градусны мароз у ачыстцы стадыёна ад снегу задзейнічаныя спецназаўцы тэрміновай службы.**

## ПСЖ папрасіла перанесці матч Лігі Еўропы з БАТЭ

Белгідрамет: Спадзявацца на пацяпленне ў чацвер не выпадае.

Кіраўніцтва французскага ПСЖ папрасіла УЕФА перанесці першы матч 1/16 фіналу Лігі Еўропы з барысаўскім БАТЭ, які мае прайсці 17 лютага (пачатак а 20-й). Прычына — моцны мароз.

«Мы гатовы гуляць а 12-й ці а 14-й у выпадку неабходнасці», — сказаў галоўны трэнер ПСЖ Антуан Камбуарэ.

Паводле Белгідрамета, 17 лютага днём будзе 15—17°С марозу, да вечара тэмпература апусціцца да мінус 20—22°С. Чакаецца сівер. Пры паўночным ветры пераносіць мароз яшчэ цяжэй.

УЕФА павінна прыняць рашэнне наконт пераносу (або неапераносу) матча ў сераду.

Нагадаем, што матч БАТЭ — «Дынама» (Кіеў) 2 снежня праходзіў у 14-градусны мароз.

Па стане на панядзелак стадыён «Дынама» прадаў каля 4000 білетаў на гульню.

**АГ**

## Прывітанне апазіцыі: Кастрычніцкую плошчу зачыняюць на два гады

Пад плошчай пачынаюць будаваць паркінг.

Падземная аўтастаянка будзе складацца з чатырох паверхаў і будзе ўглыб 16 метраў.

«За аснову мы ўзялі дакументацыю аналагічнага збудавання пад плошчай Незалежнасці, дзе таксама чатыры ўзроўні, але частка аднаго з іх аддадзена пад гандаль, — распавяла газеце «Минский курьер» галоўная архітэктарка праектаў УП «Мінскпраект» Ларыса Зянова. — Наш аб'ект разлічаны на 620 машына-месцаў (пад плошчай Незалежнасці — 500)». У паркінг можна будзе патрапіць з вуліцы Энгельса, дзе з'явіцца спецыяльная «кішэня» ўшыркі на 3 і ўдоўжкі на 40 метраў. Яна зойме частку цяперашняй гасцявой аўтастаянкі. Аварыйны выезд прадугледжаны з боку будынка Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Адначасова Кастрычніцкую забрукуюць гранітам, упрыгожаць невялікімі кветнікамі.

А сярэдзіна плошчы, як і цяпер, застанецца вольнай для святочных гулянняў (мітынгаў? — «НН»), ялінкі, коўзанкі.

На час будаўніцтва Кастрычніцкую закрыюць агароджай, бо спачатку тут выкапаюць вялікі катлаван, усталююць буранабіўныя палі з падпорнай сцяной. Нарматыўны тэрмін будаўніцтва аб'екта — два гады.

**СМ**

## Сацсетка «Вконтакте» адмяніла свабодную рэгістрацыю

Ахвотныя зарэгістравацца ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте» зараз не змогуць зрабіць гэта так свабодна, як раней, паведамляе ў сваім блогу гендырэктар сацсеткі Павел Дураў.

Для рэгістрацыі патрабуецца запрашэнне ад ужо зарэгістраванага карыстальніка. Адмяніць свабодную рэгістрацыю было вырашана для барацьбы са спам-ботамі (вірусамі, якія пашыраюць спам), якія ствараюць пустыя старонкі.

Сацыяльная сетка «Вконтакте», расійскі аналаг Facebook, налічвае больш за 111 млн зарэгістраваных карыстальнікаў, у дзень сайт наведваюць каля 23 млн чалавек.

**Сяргей Гезгала**

**Усе анкеты «Вконтакте» даступныя для прагляду, нават прыватныя**

У дадзены момант усе анкеты «Вконтакте» даступныя для прагляду, у тым ліку і анкеты з наладай прыватнасці «толькі для сяброў». Невядома, гэта часовы збой ці зараз гэта будзе назаўжды. Што цікава, даступнымі сталі і старонкі «герояў Плошчы» — курсантаў, якія размяшчалі заявы гонару за свае дзеянні пры разгоне маніфестантаў 19 снежня.

## Здарэнні сцісла

• **Раздушаны ўласнай машынай.** Кіроўца на «Опелі Вектра» сутыкнуўся ў Мінску з «Пежо 306» і выйшаў з аўто, агледзець пашкоджанні. Тым часам у ягоную машыну ззаду стукнуўся «Фіят Марэа». Ад удару «Опель» наехаў на кіроўцу. Мужчына сканаў на месцы.

• **Верылі пустым абяцанням.** 24-гадовы жыхар Мінскага раёна змясціў у інтэрнэце аб'яву, што прыгоніць аўто з ЕС. Кліенты давалі «перагоншчыку» перадаплату, але не атрымалі абяцаных машын. Аферыст сабраў такім спосабам 250 тысяч даляраў. Цяпер яму пагражае 12 гадоў пазбаўлення волі.

• **Міліцыя ліквідавала ў Мінску дзве порнастудыі.** 53-гадовы беспрацоўны жыхар сталіцы капіяваў прывезеныя з Расіі або спампаваныя з інтэрнэту порнафільмы на чыстыя DVD-дыскі і рэалізоўваў сярод пастаянных кліентаў альбо на рынку «Ждановічы». Затрымалі порнапірата падчас заключэння чарговай угоды. У кватэры гандляра «клубнічкай» было канфіскавана 2508 гатовых DVD. 36-гадовы мінчанін арганізаваў аналагічную вытворчасць. У яго было канфіскавана 1009 DVD-дыскаў парнаграфічнага зместу.

• **«Тэлефоннага тэрарыста» вылічылі за 10 хвілін.** За падманнае паведамленне аб мініраванні электрычкі затрыманы 43-гадовы жыхар Ганцавічаў. Ён пазваніў са свайго мабільніка па тэлефоне 102 і заявіў, што электрацягнік Мінск — Баранавічы можа ўзарвацца. Яго затрымалі проста ў электрычцы. Мужчына званіў у міліцыю п'яны, прычыну свайго ўчынку растлумачыць не змог.

• **У мінскай краме біліся трыццаць падлеткаў.** Падлеткі раптоўна ўварваліся ў краму «Суседзі» на вуліцы Каліноўскага. Палова іх збягала, другая палова — гналася за першай, змятаючы ўсё на шляху. Суцішыць іх дарослыя не здолелі. Падлеткі сышлі з крамы самі, высветліўшы адносіны.

• **29-гадовы мінчук стрэліў сабе ў галаву.** Мужчына застрэліўся з пісталета ў сваёй кватэры. У гэты час дома была яго маці. Перад самагубствам ён патэлефанаваў жонцы, а потым напісаў перадсмяротную запіску, у якой развітаўся з усімі.

• **Тры салдаты параненыя гранатай.** Падчас планавых заняткаў з гранатамётам АГС-17 на палігоне адбыўся няшчасны выпадак. Гранатны патрон выбухнуў пасля вылету са ствала.

**КаМ**




## 15-я «Рок-каранацыя» пройдзе ў Мінску 18 лютага. А яе абсурдэлькай стане выступ N.R.M. без Вольскага.

Сёлета арганізатары адмовіліся ад уручэння рок-кароны. Вырашылі правесці гала-канцэрт з удзелам найлепшых каманд. «Крама», «Нейра Дзюбель», «Без білета», Kriwi і N.R.M. Вось толькі выступаць культавы гурт будзе без Лявона Вольскага. Гэта і павінна стаць тым гваздом, што можна сабраць поўную залу на «Рок-каранацыі». Гурт не выступаў год. А тут гітарыст каманды Піт Паўлаў паабяцаў зайграць новыя песні.

«Я ведаю дакладна, якая будзе рэакцыя, — сказаў Паўлаў. — Частка публікі не зможа прыняць такі выгляд N.R.M. І для гэтай часткі публікі я хачу сказаць: альбо так, альбо ніякага N.R.M. больш не будзе».

Хаця сёлета і адмовіліся ад вызначэння найлепшых рок-музыкаў за 2010-ы (вынікі падвядуць праз год), але назавуць найлепшых з найлепшых за папярэднія гады. На сайце «Тузін гітоў» праводзілася адмысловае галасаванне. Слухачы самі выбіралі найлепшы гурт і альбом. За 15 гадоў існавання прэміі галоўную рок-карону атрымлівалі 10 каманд (некаторыя двойчы) і адзначаліся 14 альбомаў. Выбар невялікі, але тым не менш.

«Рок-каранацыя-2010» пройдзе 18 лютага ў к/з «Мінск».

**Сяргей Макарэвіч**

## КАНЦЭРТЫ

### Ляпіс Трубяцкой

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» адправіўся ў тур у падтрымку новага альбома «Вясёлыя карцінкі», выхад якога запланаваны на 11 сакавіка. Канцэрты ў Беларусі: **16 лютага — Баранавічы, РДК, 4 сакавіка — Магілёў, «Ліга», 13 сакавіка — Гомель, манеж «Дынама», 1 красавіка — Мінск, «Рэактар», 2 красавіка — Мінск, «Рэактар».**



### Трыб'ют The Beatles

**20 лютага ў 18.00 у мінскім клубе «Мулен Руж» (вул.Сухая, 2)** беларускія гурты зайграюць песні ліверпульскай чацвёркі. Выступаюць: **Artefact**, **Love Is…**, **The Apples**. Квіткі каштуюць 20—40 тыс. руб. Даведкі: (029) 779-99-18, (029) 179-99-18.

### Памяці «Нірваны»

І яшчэ адзін трыб'ют-канцэрт **20 лютага**. **У 20.00 у «Рэактары»** кампазіцыі гурта Nirvana будуць іграць **Re1ikt**, **Happy Face**, **Karavan** і іншыя. Квіткі каштуюць 20—25 тысяч. Даведкі: (029) 649-08-88, (029) 851-77-06.

### Народзіны Александроўскай у Оперы

**У камернай зале Оперы 18 лютага ў 19.30** — канцэрт «Памяці вялікай спявачкі», прымеркаваны да 107-годдзя з дня народзінаў Ларысы Александроўскай. Прагучаць арыі і дуэты з опер Моцарта, Даніцэці, Вэрдзі, Бізэ, Пучыні, Сэн-Санса, Мусаргскага, Чайкоўскага, Смольскага.

## ВЫСТАВЫ

### «Каранацыя Міндоўга» ў Мастацкім

**У Мастацкім музеі з 17 лютага да 17 сакавіка** працуе выстава адной карціны. Гэтым разам будзе экспанавацца твор Адомаса Варнаса «Каранацыя Міндоўга».

### Цаца ёсць цаца

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) да 4 сакавіка** працуе выстава твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Цаца ёсць Цаца». На выставе прадстаўленыя творы Тамары Васюк, Наталлі Сухаверхавай, Алы Непачаловіч, Максіма Калтыгіна, Алега Ткачова, Вольгі Рэднікінай, Уладзіміра Лісавенкі, якія працуюць у розных напрамках у галіне керамікі, габелена і мастацкага ткацтва, але іх погляды на сучаснае мастацтва аб'ядноўвае агульная ідэя захаплення разнастайнасцю прыгажосці навакольнага Сусвету.

### Выстава карцінак Такінданга

**19 лютага** запрашаем у **Гісторыка-культурны музей Заслаўя** на выставу карцінак Андрэя Такінданга. У межах выставы адбудзецца канцэрт гурта Recha, а таксама выступ беларускага барда Аляксея Жбанава. **Пачатак а 13-й.** Уваход вольны.

### Пачатак. Музей сучаснай беларускай моды

**Да 13 сакавіка ў Гістарычным музеі** працуе выстава маладых дызайнераў вопраткі, прысвечаная Дню святога Валянціна. На выставе прадстаўлена больш за 20 мадэляў дызайнераў Леора Гофмана, Крысціны Сераковай, Валянціны Няборскай, Анастасіі Сабіны і Антаніны Ясніцкай, Кацярыны Скакалінай, Вольгі Новік.

### Лядовыя скульптуры Руслана Ярохава

**У Гомельскім палацапаркавым ансамблі (у паўночным крыле палаца Румянцавых і Паскевічаў) да 3 сакавіка** працуе выстава лядовых скульптур.

### Думка беларуская

**У Мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49) да 1 сакавіка** працуе канцэптуальная выстава «Думка беларуская» Ігара Пешахонава-Міцкевіча. «Думка беларуская» — выстава пра чалавека як адзінку вымярэння беларускага краявіду. Без гэтых самотных, амаль нерухомых фігур чалавека мы не адчуем голасу прыроды.

### Каханне ды інш.

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Андрэя Скіцёва «Каханне ды інш.». Чалавек, чалавечыя пачуцці — гэта тое, што найперш хвалюе аўтара ў навакольным свеце.

### Мастацтва Узбекістана

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20) да 24 лютага** працуе выстава «Мастацтва Узбекістана».

### Генадзь Драздоў

**У галерэі «Ласандр-арт» (вул.Раманаўская слабада, 24) да 19 лютага** — персанальная выстава Генадзя Драздова. Графіка, жывапіс, кераміка.

## ТЭАТРЫ

**16 лютага**

**Беларускай драматургіі** — «Раман+Юлія»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Оперы і балета** — «Набука»

**17 лютага**

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»
**Горкага** — «Вяселле Крачынскага»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Оперы і балета** — «Набука»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**18 лютага**

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»
**Горкага** — «Вяселле Крачынскага»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Бязвінная смерць Ганулькі, альбо Буржуй у бутэльцы»

**19 лютага**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Трывалы алавяны жаўнерык»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

**20 лютага**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Чароўная Музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»

**21 лютага**

**Беларукай драматургіі** — «Сублімацыя кахання»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

**22 лютага**

**Горкага** — «Утаймаванне наравістай»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

**23 лютага**

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгендзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Горкага** — «Эсфір»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**24 лютага**

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Горкага** — «Бег»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

**25 лютага**

**Горкага** — «Пане Каханку»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Драй Швэстэрн» (для дарослых)
**Горкага** — «Эдып»
**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

**26 лютага**

**Лялек** — «Жахлівы спадар Аў»
**Горкага** — «Зоркі сёмага неба»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Горкага** — «Васа»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

**27 лютага**

**Юнага гледача** — «Бармалей»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Цэрамцэрамок»
**Юнага гледача** — «Бармалей»
**Горкага** — «Панна і смерць»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Оперы і балета** — «Карсар»



## КІНО

# Жалезная хватка

**True Grit**

ЗША, 2010, каляровы, 2010, 110 хв.

**Рэжысёры:** Ітэн Коэн, Джоэл Коэн

**Ролі выконваюць:** Гэйлі Стэнфілд, Джэф Брыджэс, Мэт Дэйман, Джош Бролін, Бары Пэпэр, Дэкін Мэт'юз

**Жанр:** Вэстэрн

**Адзнака:** 7,5 (з 10)




14-гадовая Мэці Рос прагне адпомсціць за свайго бацьку, які загінуў ад кулі нягодніка Тома Чэйні. Гераіня заахвочвае п'янаватага, але жорсткага паліцыянта адправіцца на захоп. На злачынцу палюе і тэхаскі рэйнджар Лабеф. Дзяўчынка са сталёвым характарам далучаецца да дарослых, не зважаючы на іхнія пратэсты.

«Жалезная хватка» братоў Коэнаў — празрысты і чысты вэстэрн без усялякай іроніі. Прэрыі — сапраўдныя, раны — навылёт, характары — крэмень. Ніякіх камп'ютарных эфектаў, толькі прага справядлівасці.

Фільм — паўторная экранізацыя рамана Чарльза Портыса, які першы раз трапіў на стужку ў 1969 годзе. Як і раней гульня акцёраў бездакорная.

Стужку прадзюсаваў Стывен Спілберг, у якога нюх на касавы поспех. Фільм намінуецца ажно на 10 «Оскараў».

**Андрэй Расінскі**

# Новыя пасведчанні кіроўцы надрукавалі на трасянцы

## За афармленне заявы камерсанты здзіраюць дадатковыя 15 тысяч рублёў.

Колькасці скандалаў, якія суправаджаюць працэдуру па абмене пасведчанняў кіроўцы, можа пазайдзросціць любы прадстаўнік шоу-бізнэсу. Што ні дзень, то чарговае масавае абурэнне насельніцтва дзеяннямі ДАІ.

Нагадаем, што выдача пасведчанняў новага ўзору пачалася 1 лютага. Для абмену запрашаліся тыя, у каго канчаўся тэрмін дзеяння папярэдняга дакумента, і тыя, хто збіраўся выязджаць за межы Беларусі пасля 29 сакавіка 2011 года. У гэты дзень уступае ў сілу новая Міжнародная канвенцыя аб дарожным руху.

### «Усе пайшлі, і я пайшоў»

У першы ж дзень выдачы выявілася, што ДАІ не здолела як след падрыхтавацца да ажыятажу. У пунктах абмену з'явіліся гіганцкія чэргі, якія дасягалі дзвюх-трох соцень чалавек. Спрацавала правіла натоўпу — шмат хто ішоў у ДАІ, бо ішлі і астатнія. За тыдзень даішнікі ўправіліся з чаргой, і цяпер для атрымання пасведчання дастаткова патраціць гадзіну свайго часу і заехаць за гатовым дакументам на наступны дзень.

### Недабеларускія пасведчанні

Першая інфармацыя пра новыя пасведчанні з'явіліся ў сакавіку 2010 года. «Наша Ніва» стала біць трывогу — з дакумента знікла беларуская мова! Засталіся толькі два словы: «вадзіцельскае пасведчанне» (хоць на добрай беларускай мове трэба «пасведчанне кіроўцы»). Уся астатняя інфармацыя прыводзілася па-расейску і па-англійску.

Рэакцыя грамадскасці дала плён — у выніковым варыянце беларуская мова з'явілася на адваротным баку пасведчання нароўні з астатнімі мовамі. Але пярэдні бок па-ранейшаму запаўняецца па-расейску.

Праўда, ДАІ паведаміла карэспандэнту «НН», што пры жаданні можна атрымаць і беларускі варыянт. Маўляў, проста нагадайце пра гэта ў час афармлення.

Падчас здачы дакументаў «беларускамоўным» кіроўцам даводзілася выслухоўваць ад супрацоўнікаў ДАІ: «Ну вось, зноў з-за вас у нас працы дадасца... Чаму нельга па-расейску, як у іншых людзей?!» Сцярпеўшы кпіны, праз некалькі дзён кіроўцы атрымалі пасведчанні... на трасянцы!

Назва органа, які выдаў дакумент, гучыць як... «ГАІ Мінгорісполкома» і GAI Mingorispolkoma.

Сталічная Дзяржаўтаінспекцыя паспяшалася растлумачыць, што прычынай памылкі стаў няслушны пераклад, зроблены аўтаматычна: «Праграмным забеспячэннем, у тым ліку і апаратурай, якая выдае бланкі, займаецца не Дзяржаўтаінспекцыя, а пэўная фірма. ДАІ звярнулася з прэтэнзіяй у дадзеную фірму, якая ў хуткім часе павінна выправіць памылку ў напісанні органа. Пасведчанні з памылкамі ДАІ пагадзілася абмяняць бясплатна.

Тым не менш, талон, які прыкладаецца да пасведчання, надрукаваны па-расейску нават у беларускіх правах. ДАІ паабяцала разабрацца ў сітуацыі.

### Дадатковы збор

Трэці скандал быў звязаны толькі з адным з месцаў абмену пасведчанняў — па адрасе Ціміразева, 114 у Мінску. Апроч двух абавязковых плацяжоў на агульную суму 21 700 рублёў за пасведчанне, талон і камп'ютарныя паслугі, з людзей тут збіралі дадатковыя 15 тысяч рублёў — за «афармленне заявы». Заява — дакумент фармату А4, у які перапісваецца інфармацыя з пашпарта і іншых дакументаў.

У астатніх пунктах абмену дадатковыя грошы не збіраюцца. Чым выклікана такая дыскрымінацыя? Паводле інфармацыі ДАІ, іх арганізацыя не мае дачынення да збору дадатковых грошай: «Такую паслугу аказвае ўласнік памяшкання, у якога арандуе памяшканне ДАІ». Калі больш канкрэтна, то грошы пералічваюцца на рахунак ТДА «Інтэр-аўто» на чале з дырэктарам В.Шалько.

Але плаціць дадатковыя 15 тысяч неабавязкова. Указ №200 кіраўніка дзяржавы зацвярджае спіс адміністратыўных працэдур, якія ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі ці іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян.

Для абмену пасведчання кіроўцы патрабуецца аплата 0,5 базавай велічыні за выдачу пасведчання, 0,08 — за афармленне заявы, 0,04 — за камп'ютарныя паслугі. А вось ажыццяўленне дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян адміністрацыйных працэдур, не прадугледжаных спісам, не дапускаецца. Якраз у гэтым пункце вядзецца гаворка пра незаконнасць дадатковых 15 тысяч рублёў.

**Яўген Васількоў**



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
REPUBLIC OF BELARUS
BY
ВАДЗІЦЕЛЬСКАЕ ПАСВЕДЧАННЕ
ВОДИТЕЛЬСКОЕ УДОСТОВЕРЕНИЕ
DRIVING LICENCE
PERMIS DE CONDUIRE
1. [redacted]
2. [redacted]
3. 03/09/1988 МІНСК MINSK
4a. 04/02/2011 4b. 04/02/2021
4c. ГАІ МІНГОРІСПОЛКОМА GAI MINGORISPOLKOMA
5. [redacted] 7.
9. B AM
PERMISO DE CONDUCCION
RIDIČSKÝ PRŮKAZ
KØREKORT
FÜHRERSCHEIN
JUHILUBA
ΑΔΕΙΑ ΟΔΗΓΗΣΗΣ
DRIVING LICENCE
PERMIS DE CONDUIRE
CEADUAS TIOMÁNA
PATENTE DI GUIDA
VADĪTĀJA APLIECĪBA
VEZETŐI ENGEDÉLY
LICENZJA TAS-SEWQAN
RIJBEWIJS
KÖRKORT



ТАЛОН серии АС №
к водительскому удостоверению серии ___ №___
категории (й) B AM
имя отчество
Выдан ГАИ ГАІ МІНГОРІСПОЛКОМА
Подпись
М. П. « 04 лютага 20 11
МВД РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

# У Беларусь прыйшла сувязь чацвёртага пакалення — LTE

## Як заўжды, новую тэхналогію першым засвойвае Life:)

Аператар сотавай сувязі Life:) атрымаў афіцыйны дазвол на тэставанне новай тэхналогіі LTE на тэрыторыі Беларусі.

Паводле гендырэктара кампаніі Азджана Эрміша, пробны перыяд будзе працягвацца каля трох месяцаў і за гэты час да тэстаў будуць запрошаны каля 10 тысяч чалавек.

Аператар спадзяецца ўкараніць тэхналогію ў Беларусі ў другой палове 2012 — пачатку 2013 года. Пакуль што ў Life:) усталяваныя ўсяго дзве базавыя станцыі. Абедзве ў сталіцы — на дахах Галоўпаштамта і пяцізоркавага гатэля «Краўн Плаза». Тым часам канкурэнт туркаў, кампанія МТС, таксама рыхтуецца за запуску сваёй сістэмы.

### Што такое LTE?

Гэтай абрэвіятурай, якая расшыроўваецца Long Term Evolution (доўгатэрміновае развіццё), называюць стандарт чацвёртага пакалення мабільнай сувязі, якому ўласцівая высокая хуткасць перадачы звестак і павышаная якасць галасавой сувязі.

Сярод магчымасцяў LTE называюцца звышхуткасны інтэрнэт, мабільнае тэлебачанне з шырокафарматнай карцінкай HD або ў 3D-фармаце, аўдыё і відэа самай высокай якасці ў рэжыме рэальнага часу.

Хуткасць перадачы дадзеных гэтага стандарту дасягае 173 Мбіт/с — гэтага дастаткова, каб у ідэальных умовах спампаваць цэлы DVD-дыск за тры з паловай хвіліны! А на звычайны фільм можа хапіць і хвіліны.

Пакуль што LTE у Беларусі — не больш за прыгожую казку. Каб ахінуць новым інтэрнэтам хаця б вялікія гарады, патрэбныя агромністыя інвестыцыі.

Ёсць грашовае пытанне і з боку насельніцтва — тэлефоны, якія падтрымліваюць гэты фармат, шалёна дарагія. Напрыклад, прывезены ў краіну чацвёрты Айфон каштуе ад $800, і гэта не мяжа. Часцяком цана перавышае тысячу даляраў.

Дарэчы, апараты, якія падтрымліваюць фармат 4G, спажываюць шмат энергіі, таму ашчадныя еўрапейцы і амерыканцы не спяшаюцца пераходзіць на тэхналагічныя навінкі.

Што да 4G-мадэмаў, то іх кошт не нашмат адрозніваецца ад 3G-аналагаў і складае каля $50-60.

Варта чакаць, што неўзабаве ўсе аператары мабільнай сувязі ў Беларусі пачнуць масавую раздачу мадэмаў пры ўмове заключэння кантракта на паўгода ці год.

Куды рухацца рынку далей — адкрытае пытанне. Стандарт 5G пакуль што не прынятыя, дый хуткасці сувязі ўзляцелі да такіх вышыняў, што карыстальнікі пакуль што не маюць пільнай патрэбы ў іх павелічэнні.

**ЯВ**

**Этапы развіцця мабільнай сувязі**

| | |
|---|---|
| 2G | GSM + GPRS |
| 2.75G | EDGE |
| 3G | UMTS (W-CDMA) |
| 3.5G | HSDPA |
| 3.75G | HSPA+ |
| 4G | WiMAX / LTE |

Life:), Velcome і МТС ужо дайшлі да апошняй прыступкі сувязі трэцяга пакалення — 3.75G

# Каланіяльны асартымент беларускіх лікёра-гарэлачных заводаў

## Гарэлкі «Северная Губерния», «СССР Люкс» ды «Наркомовская» — настальгія па мінулым ці кан'юнктура?



Выбіраючыся за мяжу, многія з нас бяруць з сабой падарункі — сувеніры ў нацыянальным стылі, фотаальбомы, цукеркі, а то і гарэлку. І вось тут пытанне: што адметнага прапануюць нашы вытворцы «агнявой вады»? Якое ўяўленне пра Беларусь можа атрымаць замежнік, атрымаўшы ў падарунак пляшку нашай гарэлкі?

Паводле асаблівасцяў афармлення гэты асартымент можна ўмоўна падзяліць на некалькі групаў.

Нейтральнае афармленне: універсальная назва, адсутнасць геаграфічнай, нацыянальнай прывязкі. Напрыклад, гарэлка «Бос», «Жытняя» (часцей за ўсё пішацца «Житняя»).

Афармленне ў нацыянальным стылі: «Беларусь сінявокая», «Люты», серыя гарэлак «Радзіміч», настоек «Крамбамбуля».

Мілітарысцкі стыль: як правіла, пры афармленні такой прадукцыі эксплуатуецца тэма апошняй вайны (напрыклад, гарэлка «За Победу»).

І, на астачу, самы неадназначны сегмент — гарэлкі, з этыкетак якіх на нас глядзяць расійскі двухгаловы арол, савецкі серп і молат, а ў назвах сустракаюцца словы «губерния» і «царь». Па прыклады звернемся да асартыменту віцебскага завода «Прыдзвінне». Акурат ён выпускае гарэлкі пад назвамі «Царь», «Держава», «Северная губерния» ды «Губернаторская». Цяжка зразумець, ці гэта сапраўдная туга па далёкіх і не вельмі часах, або банальная кан'юнктура.

Зрэшты, усё вырашаюць асабістыя густы. Кожны выбірае сам, як прэзэнтаваць сваю краіну за мяжой. Але варта памятаць, што ад гэтага залежыць, якой убачаць нашу краіну вашы замежныя сябры — «северной губернией» зніклай імперыі або «краінай блакітных азёр».

**Сямён Печанко**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Бабка бульбяная

**1 кг бульбы, 3 яйкі, 3 ст. лыжкі мукі, 300 г сала або грудзінкі, 3 вялікія цыбуліны, соль, перац на смак.**

Бульбу абабраць, нацерці на дробнай тарцы (можна пры дапамозе кухоннага камбайна). Сала (ці грудзінку) і цыбулю дробна нарэзаць, падсмажыць разам, ахаладзіць трохі, дадаць да цёртай бульбы. Дадаць таксама яйкі, муку, соль, перац. Усё добра перамяшаць.

Перамяшаную масу пакласці ў глыбокі посуд (напрыклад, на глыбокую бляху, у гаршчок ці качачніцу) і запячы ў духоўцы да гатоўнасці.

Падаваць са смятанай.

**НБ**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем найдаражэйшую Валянціну Леаданскую з днём нараджэння!** Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту! Сям'я дачкі.

**Віншую Дашаньку К.** з Днем усіх закаханых! Усяго табе самага найлепшага! Iskander.

**КНІГІ**

**Кніжкі былых бумбамлітаўцаў**, «Тэксты» 2007 г. танна прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

**ПАДАРОЖЖА**

**Шукаем ахвотных** далучыцца да вандроўкі 27 лютага па маршруце: Мінск—Мілавіды—Паўлінова—Ястрэмбель—Грушаўка—Крывошын—Ліпск—Савейкі—Мядзведзічы—Мінск. Т.: 262-73- 43, (029) 111-73-32.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



### Вылічы дзень народзінаў твайго сябра

Няхай сябар на паперы запіша дату свайго нараджэння. Потым памножыць гэты лік на 2. Да атрыманага ліку прыпішам нуль. Да адказу дабавіць 73. Атрыманы лік памножыць на 5 і напрыканцы трэба прыбавіць нумар месяца, у які ён нарадзіўся. Адказ трэба паказаць.

А вы ад атрыманага ліку адыміце лік 365 і атрымаеце дату і нумар месяца, калі нарадзіўся ваш сябар.

**Сабрала Валянціна Карнялюк**




**Праляскоўскі і Радзькоў (злева) на адкрыцці Кніжнага кірмашу пілі гарэлку. Старонка 9.**




**Сем з паловай тысяч маладых салдатаў зімовага прызыву прынялі прысягу на вернасць Беларусі.**




**Беларусь набыла швейцарскія гарадскія электрычкі мадэлі Flirt, коштам каля 6 млн еўра кожная. Цяпер цягнікі збіраюць у лакаматыўным дэпо Баранавічаў.**




**Рэзкае пахаладанне і снягі ўтварылі небяспечную слізгату на дарогах.**

## Анекдоты

На занятку:
— Міколка, выйдзі да дошкі і адкажы на некалькі пытанняў хатняга задання.
— Не пайду, Хрысціна Адольфаўна: я маю права не адказваць на пытанні, адказы на якія могуць быць выкарыстаныя супраць мяне.

* * *

Насамрэч навучыцца танчыць індыйскія танцы зусім не складана: адной рукой укручваеш лямпачку, другой гладзіш сабаку.

* * *

Чым адрозніваецца фальшывае каханне ад сапраўднага?
Фальшывае: Мне падабаюцца сняжынкі на тваіх валасах!
Сапраўднае: Дзе шапка, ідыётка?!

* * *

Унука-гота, які прыехаў у госці да бабулі, у вёсцы тры месяцы лічылі бацюшкам.

* * *

Студэнцкі інтэрнат.
— Адамкніце дзверы!
— Ні за што! Мы ямо!

* * *

— Як перакладаецца «I don't know»?
— Я не ведаю.
— Блі-і-і-і-ін, ніхто не ведае!

* * *

— Мама, а чаму на пліце так брудна?
— Тата ячню смажыў.
— Без патэльні?

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Думе і каля Думы.** Канчаюць перагляд закона аб пачатковых школах, а пасля прыступаюць да прагляду закона аб граніцы аседласці для жыдоў. Дэпутат Пакроўскі кажа, што ўся палітыка проці жыдоў не прыносіць карысці для гасударства. Ад часу да часу пускаюць народы гнеў у той бок, дзе яму найменш будзе перашкод — на жыдоў.

**«НН». №7. 1911**

**На аўтарынку ў Ждановічах міліцыя арыштавала Аляксандра Чыгіра, малодшага сына Міхаіла Чыгіра.** Аляксандра вінавацяць у гандлі скрадзенымі аўтадэталямі — ён меў у Ждановічах свой бізнэс. Учора арыштаваныя таксама Васіль Быкаў, пляменнік пісьменніка, і Сяргей Каляда. Супраць старэйшага сына Чыгіра — Аляксея — таксама заводзілася крымінальная справа, але беспаспяхова. Цяпер Аляксей Чыгір жыве ў Нямеччыне, дзе папрасіў палітычнага прытулку. Міхаіл Чыгір звязвае гэты арышт са сваім жаданнем балатавацца ў прэзідэнты.

**«НН». №7. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**© НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7005.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 15.02.2011.
Замова № 738.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614